30 кастрычніка 2020 | № 41 (700)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

ISSN 2218-2144






**Хто яшчэ верыць у нашы рэферэндумы?**
**стар. 9**




Фота Алега Грушэцкага

# Цяпер ці ніколі!

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Дзяржава, якая парушае прынцыпы і ганьбіць каштоўнасці цывілізаванага грамадства, — у любым разе нежыццяздольная.**

25 кастрычніка ў Гродне затрымалі доктара гістарычных навук Аляксандра Краўцэвіча. Раніцай 26 кастрычніка з ланцуга салідарнасці амапаўцы забралі паэта і барда Эдуарда Акуліна. У гэты ж дзень наўпрост на прадпрыемстве запакавалі каля сотні рабочых «Гродна Азота». Зранку 27 кастрычніка ў міліцыю адвезлі дактароў-кардыёлагаў, якія выйшлі на вуліцу, каб засведчыць сваю салідарнасць з працоўнымі і выказаць пратэст супраць гвалту.

Тое ж, што мы перажываем з лета 2020-га, беларусы перажывалі ў 1930-х гадах. Тады таксама хапалі паэтаў і навукоўцаў, дактароў і працоўных. А роўна 83 гады таму, у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, разам расстралялі больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. І сённяшнія вартаўнікі рэжыму ўсё яшчэ не дазваляюць нам ушанаваць іх памяць, адмаўляючыся прызнаваць Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій і выдзіраючы з карэннем крыжы ў Курапатах.




Фота Аляксандра Зянковіча

Яшчэ нядаўна мы маглі казаць: «Хіба што яшчэ не расстрэльваюць». Але рэжым перайшоў мяжу і пачаў забіваць: Аляксандра Тарайкоўскага, Аляксандра Віхора, Генадзя Шутава... Колькі імёнаў мы яшчэ не ведаем?..

...Падчас нядзельнага маршу 25 кастрычніка я ішла ў калоне прыгожых, мужных, разумных людзей і адчувала, якое гэта шчасце — быць сярод іх. З гэтымі не знаёмымі, але такімі роднымі беларусамі я адчувала сябе ў абсалютнай бяспецы.

Але праз які дзясятак хвілін пачалося пекла. Бандыты ў форме і без сталі перакрываць бакавыя вуліцы на падыходзе да Вярхоўнага суда, адразаючы людзям шляхі для адступлення. Людзей, проста як статак у загон, мэтанакіравана гналі на «рубяжы» і ўзброеныя шэрагі АМАПу, каб потым пачаць расстрэльваць святлашумавымі гранатамі і гумовымі кулямі. Гэтак у 1937-м праганялі вязняў «калідорам смерці». Гэтак нацысты гналі габрэяў у газавыя камеры. Гэтак жа і цяпер лукашэнкаўцы гоняць беларусаў, якія жадаюць жыць у вольнай краіне, пад абстрэл.

Чалавечае жыццё — найгалоўнейшая каштоўнасць дзяржавы. Павага да асобы і яе правоў — непарушны прынцып функцыянавання і развіцця. Дзяржава, якая парушае прынцыпы і ганьбіць каштоўнасці цывілізаванага грамадства, — у любым разе нежыццяздольны арганізм. Але агонія яе можа доўжыцца дзесяцігоддзі, а сепсіс можа захопліваць усё новыя здаровыя ўчасткі. Таму гніль трэба выдаляць як мага хутчэй.

Цяпер ці ніколі. Інача нас чакаюць гета і курапацкія магілы.

# Моцная зброя, альбо Чым пахне ўлада?

Сяргей ПУЛЬША

**У сувязі з абвешчаным страйкам у мяне ў галаве круціцца дзіцячы вершык Джані Радары з назвай «Чым пахнуць рамёствы». Памятаеце, «пахне маляр шкіпінарам і фарбай, куртка шафёра пахне бензінам, блуза працоўнага — алеем машынным»? А чым пахне кіраўнік дзяржавы?**




## Моцная народная зброя

Страйк — гэта вельмі эфектыўная народная зброя. Бадай, большасць страйкаў так ці інакш дамагаліся сваёй мэты. Напрыклад, «Марш шахцёраў на Мінск» у 1992 годзе прывёў да таго, што заробак ім быў падняты ў 3,4 разы.

І гэтак — паўсюль. Звярніце ўвагу, напрыклад, на вынікі страйкаў у свеце. Амаль паўсюль салідарныя працоўныя, якія не хаваліся ў бульбу і не спыняліся перад рэпрэсіямі, бралі сваё.

Але дамагаліся толькі ў тым выпадку, калі працоўныя былі стойкія і салідарныя.

Зразумела, кіраўніцтва вельмі баіцца страйкаў, і рабочых, якія адмаўляюцца працаваць, будуць імкнуцца ўсяляк сціснуць. Паглядзім, якая зброя ёсць у арсенале ўлады.

## Запалохванне

Найперш, канешне, гэта будзе запалохванне. Страйкоўцаў будуць палохаць непадаўжэннем кантрактаў, выстаўленнем прагулаў, пазбаўленнем прэмій. Але ж ці насамрэч гэта страшна?

Узгадаем сітуацыю, што здарылася не далей, як гэтай вясной, у час збору подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты. Адміністрацыя прадпрыемстваў настойліва, у добраахвотна-прымусовым парадку прапанавала падпісацца за «любімага правадыра». Але шмат хто ў працоўных калектывах адмаўляўся ставіць свой подпіс за вылучэнне Лукашэнкі. Гэтых людзей таксама палохалі звальненнем, пазбаўленнем прэмій, усім, чым палохаюць звычайна. Але нешта не чуваць было пра факты такіх звальненняў. Людзі праявілі годнасць, пераадолелі страх — і ім за гэта нічога не было.

Літаральна днямі па ўсёй Беларусі працоўных і служачых гвалтам цягнулі на «пралукашэнкаўскі» мітынг, што павінен быў адбыцца 25 кастрычніка. Была нават інфармацыя, што выхавацелькам дзіцячых садкоў пагражалі звальненнем, калі яны не пагодзяцца на ўдзел у гэтым шоу. Мітынг вырашылі не праводзіць — таму што людзі салідарна адмовіліся ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве. Усе казкі, што ён адменены праз каронавірус — спроба неяк апраўдацца за правал. Бо ніякі каронавірус не перашкодзіў Лукашэнку правесці парад 9 траўня, «Славянскі базар» і іншыя мерапрыемствы.

Проста людзі сказалі: не пойдзем. І таму мітынг у падтрымку «вельмі горача любімага» давялося адмяніць.

Так што — палохацца не трэба.

## Звальненне і непрацяг кантракту

Рэч гэта, канешне, непрыемная, асабліва калі ці не на кожным вісяць крэдыты і іншыя выплаты. Аднак і гэта таксама — не так ужо і страшна, насамрэч.

Канешне, мы ведаем пра тое, як звольнілі чальца Каардынацыйнай рады Дылеўскага. Мы ведаем, што звальнялі чальцоў страйкамаў, а асабліва актыўныя шахцёры, кшталту Корзуна, цяпер сядзяць на «сутках».

Але пагадзіцеся — звальненні не былі масавымі. Улада паспрабавала, найперш, пазбавіцца «актыўных». І нават такімі «кропкавымі рэпрэсіямі» дырэктарат не дамогся ні-чо-га. Таму што на месца Дылеўскага, звольненых і арыштаваных, прыйшлі іншыя людзі. А тое, што яны прыйшлі — гэта гарантавана, інакш бы Ціханоўская не змагла абмяркоўваць будучы страйк з «прадстаўнікамі страйкамаў прадпрыемстваў».

Што ўлада будзе рабіць, калі гэтых «актыўных» будуць не дзясяткі, а сотні і тысячы? Ці звольніць усіх, хто страйкуе? Відавочна, што не.

Паводле інфармацыі з сацсетак, на некаторых складах «Е-дастаўкі» і «Еўраопта» спела рашэнне далучыцца да ўльтыматуму і байкатаваць працу ўсімі зменамі. Зверху прыехала кіраўніцтва для «перамоваў» і пагражала нават выклікаць АМАП.

Адказ працоўных: «Выклікайце, без праблем. А хто вам тады заказы збіраць будзе?»

Сапраўды, хто будзе працаваць? Відавочна, што магчыма звольніць аднаго, двух, пяць чалавек. Звольніць цэлую змену — ужо немагчыма. Проста таму, што на «канвеерным» прадпрыемстве дастаткова спыніцца аднаму, двум, тром цэхам — і астатняя вытворчасць таксама стане.

А кім замяніць звольненых? Дзе знайсці такіх жа адмыслоўцаў у сваёй справе? Ды проста няма дзе. Ці ставіць на іх месца невукаў, якія будуць выдаваць браку больш, чым прадукцыі, ці… Проста нікога не звальняць. Ды ўвогуле, як звальняць, калі прадпрыемствам і так не хапае працоўных рук?

## А калі звольняць?

А калі ўсё ж такое будзе адбывацца — трэба ведаць дзве рэчы. Першае — гэта салідарнасць. Калі большасць працоўных проста напішуць заявы «па ўласным жаданні» ў знак салідарнасці са звольненымі — гэта ўжо ціск на дырэктарат, бо… Глядзіце вышэй. Калі звальненнем пагражае ўся змена — гэта прымусіць дырэктарат задумацца. Замяніць працоўнага чалавека, як ужо пісалася, няма кім. Міліцыянтаў да станкоў не прыставіш.

Другое — цяпер ніхто не застанецца без дапамогі. Варта запытацца ва ўжо звольненых: ці скончылася на гэтым іх жыццё? Ці «пакаяліся» яны і ці прасіліся назад? Зразумела, што не. Таму што цяпер ёсць механізмы абароны працоўных. Ёсць адпаведныя фонды, якія надаюць дапамогу, ёсць незалежныя прафсаюзы, якія абскарджваюць звальненне, ёсць людзі, гатовыя прапанаваць працу ў іншай сферы і нават бясплатна перавучваць для набыцця новай, больш «грашовай» прафесіі, ды з гарантаваным працаўладкаваннем.

Паказальная гісторыя ратавальніка Максіма Сташулёнка. Гэта той пажарны, які адмовіўся выязджаць здымаць бел-чырвона-белыя сцягі і папярэдзіў пра «візіт» жыхароў раёна, куды ехалі здымаць сімвалы. Яго звольнілі. Па кантракце ён павінен быў вызваліць службовую кватэру, а ў яго малое дзіцё ды цяжарная жонка.

Даведаўшыся пра сітуацыю, людзі літаральна засыпалі яго прапановамі дапамагчы. Людзі запрашалі пераехаць жыць да іх бясплатна: хтосьці — падсяліцца, хтосьці даваў у распараджэнне кватэру, гучалі прапановы нават пераехаць у катэдж за горадам.

Праўда, Максім з дапамогай незалежных юрыстаў абскардзіў сваё звальненне, і пакуль ідзе разгляд, ён застаецца жыць у сваёй кватэры.

Сёлетняя сітуацыя ўнікальная — страйк падтрымлівае грамадства, і падтрымлівае вельмі моцна. Большасць народу салідарная са страйкоўцамі. Зразумела, адна справа, калі спыняцца заводы, іншая — калі чыгунка ці грамадскі транспарт. Але людзі цяпер гатовыя пацярпець часовыя нязручнасці, каб дасягнуць выніку. І яны гатовыя падтрымаць працоўных у іх патрабаваннях.

Такога моманту салідарнасці яшчэ не было, падаецца, амаль ніколі ў нашай найноўшай гісторыі. Гэта вельмі важна. Абеды, фонды салідарнасці, простая падтрымка, плакаты на мітынгах у гонар працоўнага люду, чат-боты, што ствараюцца для працоўных, суполкі ў тэлеграме, гатоўнасць пацярпець нязручнасці ад страйкаў, каб яны былі выніковымі, — сапраўды, гэтая сітуацыя ці не ўнікальная. Яна паказвае, што ніхто з тых, хто пацерпіць у выніку страйку, сам-насам са сваёй бядой не застанецца. Ім будзе аказаная дапамога і падтрымка.

Калі не страйкаваць цяпер, то ці будзе яшчэ калі-небудзь такая сітуацыя? Гэта вялікае пытанне.

## Людзьмі звацца

Сёлетнія спробы страйку — гэта не толькі палітычныя патрабаванні. Гэта больш глабальныя рэчы. Гэта барацьба — вяртанне павагі да працоўнага чалавека.

Лукашэнка, хоць і ўвесь час апеляваў да «працоўнага чалавека», да «сацыяльнай дзяржавы», заганяў таго самага працоўнага ў ланцугі — тэрміновымі кантрактамі, прызначэннем кіраўнікоў прадпрыемстваў, іншымі рэчамі. І, вонкава кажучы пра «дзяржаву для народа», ён паступова стварыў такія ўмовы, што цяпер працоўнага можна нават у арэнду здаваць — як рэч альбо прыгоннага.

Але людзі — усё ж не рэчы, праўда?

Кіраўнікі розных прадпрыемстваў вельмі грэбліва кажуць рабочым: «Не падабаецца — звальняйся!» Ці не варта ўрэшце паставіць іх на месца? Можа, хай звальняюцца тыя, хто даве́ў народ да галечы?

Варта займець толькі крыху годнасці, варта адзін раз перадолець страх — і ўсё пойдзе ў іншым рэчышчы.

## «Толькі гультайства не пахне ніяк»

Вяртаючыся да Джані Радары (дарэчы, 24 кастрычніка споўнілася 100 гадоў з дня яго нараджэння), то ён адказвае: «Толькі гультайства не пахне ніяк».

Людзі, якія працуюць, змогуць пражыць без Лукашэнкі. Грамадства ўжо гэта яскрава прадэманстравала ў часы першай хвалі каронавіруса. У той час, як Лукашэнка раіў «лячыцца» трактарамі і козачкамі, анічога не зрабіўшы для абароны людзей, людзі самі арганізоўвалі дыстанцыйнае навучанне, самі шылі маскі ды сродкі абароны (і яшчэ дзяліліся гэтым з медыкамі), самі ўсталёўвалі правілы паводзінаў, і гэтак далей. То-бок, беларусы прадэманстравалі: яны здольныя пражыць без улады, якая не клапоціцца пра народ.

А вось ці здолее пражыць без працоўнага народа ўлада? Хто будзе карміць ідэолагаў, міліцыянтаў, АМАП ды ўсю ўладную «вертыкаль»? Ці здолее Лукашэнка пражыць без працоўнага? Падаецца, што не.

Памятаеце, як заскакала кіраўніцтва пры першых спробах страйку ў жніўні? Імгненна сцішыліся рэпрэсіі, вызвалілі збітых і арыштаваных, паабяцалі «больш такога не рабіць»… Бо яны там, ва ўладзе, разумеюць: без працоўнага, без народа, яны, насамрэч, ніхто. Таму і завaрушыліся, закруціліся, як вужакі на патэльні. Аднак цяпер на ўсе абяцанкі забыліся — і АМАП па-ранейшаму «месіць» інвалідаў ды бабулек. Ці не варта нагадаць пра тое, што, па вялікім рахунку, ніводнае з патрабаванняў працоўных выканана не было, і больш на абяцанкі не вясціся?

Улада ствараецца, каб яна вырашала тыя праблемы людзей, якія яны самі не ў стане вырашыць. Аднак калі ўлада не вырашае праблемы, а стварае іх, калі яна ператвараецца з механізму абароны ў механізм рэпрэсій, — яна робіцца «гультаём», які «не пахне ніяк».

Дык ці не час указаць гультаю на тое, хто сапраўды з'яўляецца крыніцай улады?

Мы без Лукашэнкі выжывем. Ён без нас — не. І варта нарэшце даць зразумець уладзе, што моц дзяржавы — гэта народ, а не купка «эліты» за міліцэйскімі шчытамі.

# «Бачыць збіццё іншых людзей нашмат цяжэй, чым самому патрапіць пад дубінку»

Кацярына ШУСТ

**З самага пачатку мірных пратэстаў Віталь Алейнік не заставаўся ўбаку ад падзей і шмат дапамагаў іншым. Асабліва валанцёрам каля Акрэсціна, а таксама тым, хто шукаў па РУУС ды ізалятарах сваіх затрыманых сяброў і родных. Але нечакана Віталь і сам патрапіў за краты.**

### Затрыманне. «Напэўна, ты каардынатар»

Здарылася гэта 23 верасня, калі таемная інаўгурацыя Лукашэнкі выклікала новую моцную хвалю народнага абурэння, людзі пачалі пратэставаць, збіраліся каля стэлы. Віталь, праўда, туды не трапіў: ён знаходзіўся далёка ад эпіцэнтра пратэстаў, на плошчы Свабоды, і ўжо па дарозе ў метро сутыкнуўся з невядомымі, якія хапалі ўсіх мінакоў запар.

— Верагодна, гэта былі супрацоўнікі ГУБАЗіК, затрыманне адбылося недалёка ад іх будынка, куды мяне і адвялі. Прыводзілі новых і новых затрыманых, у людзей забіралі тэлефоны і патрабавалі паролі. Асабліва мярзотным у паводзінах гэтых «балаклаўшчыкаў» было тое, што яны шукалі ў прыладах нават не доказы ўдзелу ці каардынацыі пратэстаў, а асабістую інфармацыю, гучна каментавалі сямейныя фота, перапіскі, здзекліва паведамлялі, маўляў, «а вось і смс ад жонкі, хвалюецца, напэўна». Вельмі цяжка было гэта чуць, хоць да майго тэлефон справа і не дайшла. Увогуле, бязмежжа пачынаецца з дробязяў, але на кожным этапе пасля затрымання расце як снежны ком.

Нягледзячы на няпростую сітуацыю, Віталь намагаўся клапаціцца пра іншых затрыманых, дамогся таго, каб ім далі вады, патрабаваў выклікаць хуткую да людзей з траўмамі (якіх у той вечар было шмат).

— Аднаму хлопцу асабліва дасталася, яго збівалі на ўсіх этапах, ад самага затрымання і да змяшчэння ў камеру на Акрэсціна. Неверагодна цяжка бачыць збіццё іншых людзей — нашмат цяжэй, чым самому патрапіць пад дубінку. Цяжка ўсведамляць, што не можаш нічога зрабіць і абараніць іх.

Віталь узгадвае, што не надта думаў пра ўласную бяспеку, спрабуючы заступацца за іншых: «У такія моманты не дбаеш пра асцярожнасць, проста робіш тое, што лічыш патрэбным у гэтай сітуацыі».

З будынка на Рэвалюцыйнай затрыманых перавезлі ў Цэнтральнае РУУС, патрымалі ў дворыку тварам да сцяны, потым пачалі афармленне. З некаторымі супрацоўнікамі ўзнікалі размовы, падчас якіх Віталь пачуў нават: «Напэўна, ты тут галоўны каардынатар», — відаць, толькі такім чынам супрацоўнікі РУУСа маглі неяк абгрунтаваць для сябе паводзіны чалавека з актыўнай і паслядоўнай пазіцыяй. Нягледзячы на пагрозы і запалохванні, Віталь катэгарычна адмовіўся здаць адбіткі пальцаў, падпісаць пратакол і патрабаваў магчымасці звязацца з адвакатам. Нават пачаў пісаць заяву да кіраўніка РУУСа, чым выклікаў спачатку разгубленасць, а потым і агрэсію ў супрацоўнікаў.

— Пасля доўгіх размоваў і пагрозаў нейкі чалавек некуды мяне павёў, і я ўжо падумаў: ну, цяпер дакладна будуць збіваць. Чалавек з пратаколам бег за намі: «Ды ці падпішаш ты пратакол?!» Даўшы згоду, я хутка прагледзеў пратакол, пабачыў поле для заўваг і напісаў там, што патрабую прадаставіць мне адваката. Такі «сапсаваны» пратакол у мяне адабралі з крыкамі і лаянкай.

Затрыманых адвезлі на Акрэсціна. Па ўспамінах Віталя, ахова ізалятара размаўляла толькі абразамі і нецэнзурнай лексікай, а медперсанал зусім не пераймаўся дапамогай траўмаваным.

— У аднаго чалавека была сур'ёзная праблема з рэбрамі, цяжка дыхацць і рухацца, але тыя, хто яго аглядаў, сказалі: нічога страшнага, усё пройдзе. Добра, што я хаця б ускосна яму «дапамог»: моцна зацягнуў свой суд, а таму яго не паспелі асудзіць ва ўстаноўлены тэрмін і вызвалілі.

Асабліва негатыўнае стаўленне, адзначае Віталь, было да тых, хто належыць да нейкіх супольнасцяў: раварысты, байкеры, а таксама… айцішнікі. Такія людзі адразу ўспрымаюцца як самыя небяспечныя, з імі абыходзяцца больш жорстка.



**Неверагодна цяжка бачыць збіццё іншых людзей — нашмат цяжэй, чым самому патрапіць пад дубінку. Цяжка ўсведамляць, што не можаш нічога зрабіць і абараніць іх**

### Суд. «Няўжо гэта адбываецца са мной?»

Судовы канвеер пачаўся праз дзень. Людзей судзілі проста ў калідоры ізалятара, па скайпу. Віталь і тут граў па сваіх правілах: заявіў шмат хадайніцтваў, аспрэчваў усе хлусlівыя паказанні і дамогся перапынкаў для размовы з адвакатам, якога, дарэчы, усё ж знайшлі і запрасілі ў суд дзякуючы той самай пазначцы ў пратаколе.

— Для сувязі з суддзёй мне далі разбіты тэлефон, на якім нічога не было зразумела, падчас суда прыходзілі нейкія паведамленні ў месенджарах кшталту: «Як там вашы змагары?». У гэта ўсё проста немагчыма было паверыць. Потым з'явіўся і «сведка» — Іваноў Іван Іванавіч у балаклаве… Увесь гэты трэш, які я бачыў у расповедах іншых людзей, — няўжо гэта адбываецца са мной? Паводле заканадаўства, у падсудных шмат магчымасцяў: можна і запрашаць экспертаў, і нарады з адвакатам не павінны быць абмежаваны ў часе, але на справе ніякія гэтыя нормы закона не працуюць. Нават наяўнасць у мяне двaіх дзяцей хоць была прынятая да «змякчаючыя акалічнасці», але тэрмін па артыкуле далі максімальны. Дык у чым змякчэнне?

У выніку суд замест звычайных у такіх выпадках 10–15 хвілін цягнуўся амаль пяць гадзін. І скончыўся прысудам 15-ці сутак.

### «Канцлагер для ваеннапалонных»

Асноўную частку прысуду Віталь адбываў у Жодзіне, у турме №8.

— З аўтазака, у якім нас перавозілі, мы чулі клаксоны машын і радаваліся, што нічога не скончылася, што людзі, пабачыўшы аўтазак, не лянуюцца выказаць такім чынам сваю пагарду. Прымалі нас у турме вельмі жорстка, пастаянна прымушалі бегчы, размаўлялі толькі крыкамі і матамі, падганялі людзей дубінкамі: «Сардэчна вітаем у канцлагеры для ваеннапалонных». Ужо ніхто не пытаў, колькі нам заплацілі: людзі такіх высокааплатных прафесій былі там, што пытаць пра грошы проста смешна. І тым цяжэй было бачыць гэтае зняважлівае стаўленне да адукаваных, выхаваных людзей, людзей сталага ўзросту ад гэтых «балаклаўшчыкаў». Панядзелак, аўторак, серада — самыя жахлівыя дні, прывозяць на суткі людзей, якіх затрымалі пасля нядзельных маршаў. Тады паўсюль стаяць крыкі — і зняволеных, і ахоўнікаў. У побыце шмат кепскага, бруднага, агіднага — праз нейкі час людзі пачынаюць да гэтага прызвычайвацца. Але я пераконваў сукамернікаў: прызвычайвацца і ўспрымаць гэта спакойна нельга. Канешне, цяпер мы не можам нічога зрабіць, але на свабодзе трэба змагацца за тое, каб умовы мяняліся.

Віталь узгадвае і прыемныя моманты — перадачы. Іх атрыманне вельмі залежыць ад настойлівасці перадаючых, а таму Віталь раіць дзяўбці і дзяўбці ахову, каб перадачы прымалі. Тым больш, канваіры вельмі нервуюцца, калі бачаць вялікую салідарнасць людзей.

— Некаторыя рэчы са спісаў перадач не настолькі важныя, а без іншых проста не абысціся. Пра гэта нячаста думаюць, але ў ізалятары шмат у каго пачалася алергія, выратоўваў толькі крэм для скуры, таму варта такое перадаваць, хлопцам ён таксама патрэбны. З прадуктаў самае стратэгічнае — сала, яно смачнае і добра захоўваецца. А таксама шакалад, бо ўздымае настрой. Яшчэ важна перадаваць настольныя гульні: доўгімі днямі няма чым заняцца. Таму сала, крэм і настолкі — гэта самае важнае. А дзячат радавалі яркія рэчы, перадавайце сяброўкам яркую вопратку.

Больш нічога прыемнага і нават проста прымальнага ў жодзінскіх «сутках» няма. На шпацырах са зняволенымі размаўляюць крыкам, матамі, увесь час абражаюць. Ахова любым чынам намагаецца зрабіць жыццё людзей максімальна невыносным. Ежа вельмі кепская, ноччу ўключаюць святло, удзень забаронена ляжаць і нават сядзець на матрацах. Аднойчы падчас чарговай пераклічкі ў калідоры ахоўнік спытаў, ці ёсць у зняволеных «прапановы». «Ёсць прапанова выпусціць нас», — адказаў Віталь, пасля чаго яго моцна збілі. Нягледзячы на ўсё грамадскае абурэнне пасля жнівеньскага жаху, катаванні і збіццё ў ізалятарах працягваюцца.

### На волі. Не маўчаць і не мірыцца

Пасля вызвалення Віталь ужо паспеў абскардзіць прысуд, звярнуцца ў пракуратуру, ААН і Amnesty International. І раіць кожнаму, хто прайшоў праз падобнае, не маўчаць і не мірыцца. Адкуль узяць на гэта сілы? З жадання не даць працягвацца несправядлівасці і здзекам.

— З аднаго боку, вельмі цяжка чуць боль і гора ў крыках з суседніх камер, немагчыма быць абыякавым. З іншага боку, натхняе салідарнасць — і тая, якая нараджаецца ў асяроддзі саміх зняволеных яшчэ за кратамі, і тая, якая збірае натоўпы людзей, што сустракаюць іх з сутак. Нас сустракалі цёпла і радасна — пасля адсідкі гэта вельмі дапамагло і псіхалагічна выцягнула.

Працягваецца барацьба, працягваюцца і затрыманні. У спісах зняволеных Віталь ужо пабачыў некаторых сукамернікаў, якія трапіліся паўторна. З сумам каментуе нядзельныя затрыманні: «Можна падумаць, што затрымліваюць няшмат людзей у параўнанні з той колькасцю, якая выходзіць на пратэсты, але за кожным затрыманнем — канкрэтны чалавечы лёс, і нельга ўспрымаць гэта як проста лічбы».

Віталь працягвае і любімы занятак — валанцёрства. Пакуль атрыманыя на сутках траўмы не дазваляюць доўгіх шпацыраў, падвозіць дахаты ўдзельнікаў маршаў.

— Калі разумею, што магу нечым дапамагчы, падзяліцца, я заўсёды гэта зраблю. Я бачыў самыя жахлівыя моманты ў жніўні, калі людзей выпускалі з Акрэсціна, і яны проста выпаўзалі адтуль, — і толькі адно пытанне было ў галаве: «Як так можна?» На ўзроўні тых, хто прымае рашэнні, павінна быць асноўная мэта, каб такога больш не было ніколі. Няважна, колькі працэнтаў людзей не згодныя — хіба яны не людзі? З людзьмі трэба размаўляць. А калі з людзьмі толькі дубінкай па галаве — я не магу з гэтым замірыцца, і шмат хто не можа.

Хочацца верыць, што перамога будзе хутка, і жахі рэпрэсій, катаванняў, здзекаў ужо неўзабаве скончацца назаўсёды. І дзякуючы такім людзям, як Віталь, гэтая вера сапраўды з'яўляецца.

а | Азбука паліталогіі

# Пошукі падстаў для аптымізму



Сяргей НІКАЛЮК




**Дзяржава плыла супраць плыні (мэйнстрыму), але яе архітэктары апраўдваліся тым, што гэта плынь ідзе супраць іх.**

Варта прызнаць, што адзінота беларускім архітэктарам не пагражала. Усходнія суседзі абралі аналагічны шлях, што і дазволіла двум лузерам знайсці адзін аднаго і заснаваць так званую Саюзную дзяржаву.

«Пабудаваць спрабавалі не проста палепшаную (і паменшаную) копію загінулай дзяржавы, — тлумачыць расійскі публіцыст Іван Давыдаў. — Будавалі адразу дзяржавы, што адсталі ад новага свету і няздольныя ў гэты новы свет упісацца. Дзяржавы, якія супрацьстаяць будучыні як з'яве».

Дыпламатычныя змаганні з Еўропай, якія мы сёння назіраем, не варта спісваць на выбары. Нашы выбары — толькі маркёр несучаснасці беларускай мадэлі. Яна, як і савецкая папярэдніца, не здольная ўзнаўляцца ва ўмовах палітычнай канкурэнцыі. Адкрыта ж адмаўляць дэмакратычныя нормы сёння ахвочых няма. Адсюль — гульні ў імітацыю. Калі ўважліва прыглядзецца, то парламент у нас — не парламент, прэзідэнт — не прэзідэнт, а выбары — не выбары.

Але ў любой імітацыі ёсць мяжа. Да шостай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі яна была дасягнутая. Колькасць перайшла ў новую якасць, і гэта якасць аказалася крывавай. Таму варта адкінуць усе спадзяванні на ўнутраны дыялог. Дыялог для беларускай улады — толькі спосаб выйграць час, неабходны для перагрупоўкі сілаў.

## 3-е месца супраць 68-га

А як жа грамадства? З канца 1990-х гадоў яно не падавала прыкмет жыцця. Атамізаванасць — гэта значыць няздольнасць да самаарганізацыі — была яго галоўнай характарыстыкай. Сацыёлагі на сваёй «птушынай мове» ў такіх выпадках разважаюць пра нізкае значэнне сацыяльнага капіталу.

Сацыяльны капітал можна вымераць з дапамогай адказу на пытанне: «Ці можна давяраць большасці людзей або ў адносінах з людзьмі трэба быць вельмі асцярожным?» У чэрвені 2016 года сцвярджальна на яго адказалі 26% беларусаў. Шмат гэта ці мала? Для параўнання, у Даніі іншым людзям давяраюць 66%.

Давер з'яўляецца «змазвальным матэрыялам» прагрэсу. У сучасных грамадствах ён замяняе прымус. У якасці каментара прывяду выказванне бацькі сінгапурскага цуду Лі Куан Ю: «Калі б я мусіў апісаць адным словам, чаму Сінгапур дасягнуў поспеху, то гэта слова — "давер". Менавіта давер да нас дазваляў замежным інвестарам засноўваць свае фабрыкі і нафтаперапрацоўчыя заводы ў Сінгапуры».

А што дапамагае расіянам інвеставаць у беларускія НПЗ? Асабістыя дамоўленасці самі разумееце з кім. Таму і не ўкладаюць еўрапейскія інвестары свае грошы ў беларускую нафтаперапрацоўку. Актыўнасць жа расіян тлумачыцца не іх зухаватасцю, а манаполіяй на пастаўку нафты. Сварыцца з імі — сабе даражэй. Але няма правілаў без выключэння. Прыгадаем гісторыю «Белгазпрамбанка».

Давер у эканоміцы немагчыма пераацаніць, а вось ацаніць — магчыма. Таму не варта здзіўляцца, што расійскія кампаніі каштуюць каля шасці іх гадавых прыбыткаў, а амерыканскія — 20–25.

Яшчэ адзін прыклад. У 2019 годзе Сінгапур з $101,3 тыс. ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) на душу насельніцтва аказаўся на 3-м месцы ў свеце, а Беларусь з $19,3 тыс. — на 68-м. Адчуваеце розніцу?

Рэкамендую ўспамінаць гэты прыклад, калі прапаганда чарговым разам будзе параўноўваць сучасны ўзровень даходаў беларусаў з узроўнем «ліхіх 90-х».

## Настрадамусы падвялі

Сацыёлаг «Лявада-цэнтра» Барыс Дубін лічыў, што пазбаўленне грамадства рэсурсу даверу з'яўляецца найгоршым злачынствам савецкай улады: «Каб дамагчыся ад насельніцтва пасіўнасці і падпарадкавання, улада біла менавіта па сацыяльных сувязях, пазбаўляючы людзей апоры адзін у адным. Сёння нашы рэспандэнты мяркуюць, быццам ні на што не могуць паўплываць, а дамагацца сваіх правоў — бессэнсоўна. Тэрыторыя, падкантрольная чалавеку, сціснулася да памераў невялікай сям'і».

Да лета 2020 года выказванне расійскага сацыёлага было актуальным і для Беларусі. Здавалася, нічога не абяцала развароту грамадскіх настрояў на 180°. Але яны развярнуліся. Аднаго-двух тыдняў для гэтага хапіла.

Чаму ж нікому з мясцовых настрадамусаў не ўдалося трапіць пальцам у «дзясятку»? Па-першае, па прычыне адсутнасці гуманітарных навук у Беларусі як такіх. Тое, чым займаюцца прафесіяналы на акладах, да навукі дачынення не мае, бо яны спецыялізуюцца на апраўданні курсу, абранага адзіным палітыкам у 1994 годзе. У тых жа, хто да бюджэтнай кармушкі не дапушчаны, больш, чым на каментары бягучых, падзей рэсурсаў не хапае. Ні інтэлектуальных, ні фінансавых. Ім не да сістэматычных даследаванняў.

Па-другое, бедныя рэсурсы, якія ўдавалася здабыць экспертам, свабодным ад абавязацельстваў перад дзяржавай, накіроўваліся на вымярэнне пульсу соннага грамадства. Атрыманыя такім чынам веды мала чым маглі дапамагчы ў разуменні грамадства, якое перайшло ў стан узбуджэння.

Зразумела, спіс апраўданняў двума пунктамі не абмяжоўваецца. Дастаткова прыгадаць парадокс, які абвяшчае, што людзі не заўсёды дзейнічаюць так, як яны кажуць. Таму апытанні (пры іх наяўнасці) у лепшым выпадку дапамаглі б меркаваць пра настроі рэспандэнтаў, але не пра дзеянні, да якіх яны рэальна гатовыя.

Між тым, у нашых усходніх суседзяў назапашваліся аналагічныя змены, якія фіксаваліся расійскімі даследчыкамі. У прыватнасці, група эканаміста Міхаіла Дзмітрыева і псіхолага Анастасіі Нікольскай у 2018 годзе зафіксавала, што ў грамадстве знік запыт на «моцную руку», узрасло негатыўнае стаўленне да ўлады і знізілася эфектыўнасць дзяржаўнай прапаганды. «Для людзей, — падкрэсліў эканаміст у адным са сваіх інтэрв'ю, — раптам сталі выходзіць на першы план зусім не бытавыя, матэрыяльныя каштоўнасці, а каштоўнасці, якія сацыёлагі называюць постматэрыялістычнымі».

## Усё толькі пачынаецца

Вось ужо трэці месяц на вуліцы беларускіх гарадоў выходзяць дзясяткі, а часам і сотні тысяч апазіцыйна настроеных да ўлады грамадзян!

Учорашняя казка стала явай. Але працэсы самаарганізацыі, што мы назіраем сёння, не адмяняюць распаду сацыяльных сувязяў, прыстасавання да карумпаванай улады і іншых люботаў, уласцівых аўтарытарным сістэмам. Чорна-белым бывае кіно, а пры размалёўванні любога сучаснага грамадства жыццё выкарыстоўвае ўсе колеры вясёлкі.

Ва ўмовах электаральнай мабілізацыі адны колеры пачынаюць іскрыцца і пераліваццa, а іншыя — блякнуць. Усё лагічна. Нездарма ж кітайскае слова «крызіс» можна перакладаць як «магчымасць». Але любая новая магчымасць дзеліць людзей на пераможцаў і прайграўшых. Гэтага не пазбегнуць — галоўнае, каб пераможцы аказаліся ў большасці.

Здавалася б, у «аксамітных рэвалюцый» у канцы 1980-х гадоў колькасць прайграўшых была мінімальнай, але адкрыем кнігу «Святло, якое падманула надзеі» балгарскага палітолага Івана Красцева і яго амерыканскага калегі Стывена Холмса: «Людзі раптам зразумелі, што ў бліжэйшыя гады вырашыцца, хто будзе заможны, а хто бедны, хто будзе мець уладу, а хто не, хто акажацца на ўзбочыне, а хто будзе ў цэнтры падзей. Хто зможа заснаваць дынастыі, а чые дзеці будуць пакутаваць».

Не ўсё так проста. Няздольныя ўпісацца ў сучаснасць адказваюць на выклікі дэградацыяй, чым яшчэ больш зніжаюць свае шанцы скарыстацца новымі магчымасцямі. Паглядзіце на Польшчу і Венгрыю, лідараў па рэвізіі еўрапейскіх каштоўнасцяў.

* * *

«Ёсць у рэвалюцыі пачатак, няма ў рэвалюцыі канца». Словаў з песні не выкінуць! Але як бы ні развіваліся падзеі, падстаў для аптымізму сёння больш, чым для суму. Неабходна толькі ўсведамляць, што мы знаходзімся ў пачатковай фазе актыўнага супрацьстаяння мадэрнізаванай часткі беларускага грамадства з архаічнай дзяржавай.

# Пасля змены ўлады не будзе пагаршэння эканамічнай сітуацыі

Сяргей ПУЛЬША

**Пакуль нельга сказаць, наколькі ўплывае страйк на змену сітуацыі ў краіне. Аднак тое, што ўсё больш і больш людзей гатовыя выходзіць на пратэст — гэта факт. А ўлада спрабуе не зважаць на меркаванне народа. Чым далей такая сітуацыя працягнецца, тым горшым будзе эканамічнае становішча краіны.**

Як «недамоваздольнасць» улады ўплывае на эканамічную сітуацыю? Што будзе, калі сённяшняе становішча захаваецца досыць доўга? «Новы Час» разбіраецца разам з эканамістам Львом Марголіным.

***— На колькі месяцаў у Лукашэнкі хопіць грошай на ўтрыманне АМАП? Колькі ўвогуле можа працягвацца такое існаванне ў краіне?***

— Калі больш ні на што грошай не марнаваць, то АМАП можна ўтрымліваць і дзесяць гадоў. Але так не атрымаецца: патрэбныя грошы прадпрыемствам, каб працаваць, на пенсіі таксама трэба грошы. Трэба ўтрымліваць бюджэтную сферу і шмат што іншае. Калі разглядаць сітуацыю з макраэканамічнай пазіцыі, то магчымасці дзяржавы скарачаюцца, як шчыгрынавая скура.

Эканоміка — як рухавік унутранага згарання. Калі ў яго паступае паліва, ён працуе, калі паліва перастае паступаць — ён глухне. Для эканомікі палівам з'яўляюцца інвестыцыі. І цяпер сітуацыя якраз такая, што знешніх інвестараў бліжэйшым часам мы не ўбачым — яны выдатна разумеюць сітуацыю і ўяўляюць, чаго ад гэтай сітуацыі можна чакаць. Адзінае, каго можна ўбачыць — гэта якіх-небудзь інвестараў з Эміратаў. Але, па-першае, гэта не тыя грошы, якія могуць спрыяць развіццю эканомікі, а па-другое, наогул не зразумела, чые гэта грошы: ці то сапраўды Эміратаў, ці то сям'і Лукашэнкі.

Унутраных інвестыцый таксама не будзе. Прычым, я кажу пра інвестыцыі ў шырокім сэнсе гэтага слова. Гэта тычыцца не толькі буйных прадпрыемстваў. Нават, калі які-небудзь прадпрымальнік хацеў адкрыць кавярню або цырульню, бліжэйшым часам ён гэта рабіць не будзе. Цяпер гэта — вялікая рызыка.

Хто яшчэ можа даць інвестыцыі? Кітай? Ужо выключана. Расія? Па апошніх падзеях, заявах і дзеяннях Расіі мы можам зрабіць абсалютна адназначную выснову, што Расія абумовіла свае грашовыя ўліванні канкрэтнымі крокамі з боку існуючай улады, і будзе гэтыя крокі дакладна кантраляваць. Расія выдатна разумее (пры ўсім нежаданні спрыяць перамозе «каляровай рэвалюцыі»), што падтрымліваць Лукашэнку — гэта вельмі дорага. І гэта ўжо тыя грошы, якія сённяшняя Расія сабе дазволіць не можа.

Для Расіі ёсць адзіна прымальны варыянт — транзіт улады і спрыянне таму, каб да ўлады ў Беларусі прыйшла асоба, можа быць, у чымсьці лаяльная да Масквы, але больш адэкватная, не такая зашкваранaя, як цяперашні кіраўнік краіны.

Лукашэнка можа дзейнічаць дваяка, казаць Расіі: «Так-так, мы дамовіліся з вамі, і я буду рабіць тое, пра што дамовіліся», а на самай справе тармазіць усе дамовы. Але я думаю, што гэта не атрымаецца, таму што Расія відавочна паставіла канкрэтныя сцяжкі, па дасягненні якіх будуць вылучацца нейкія фінансавыя рэсурсы.

Таму зацягваць стагнацыю да бясконцасці немагчыма, народ гэтага проста не вытрымае.

Калі цяпер не атрымаецца арганізаваць поўнамаштабны страйк, гэта не азначае, што пратэст здзьмуўся, і на гэтым усё скончыцца. Гэта як аблога горада. Аблога ідзе, у нейкі час нападаючыя згрупаваліся і пайшлі на штурм. Штурм можа быць паспяховым, а можа і праваліцца — але аблога зняатая не будзе. І нападаючыя будуць рыхтаваць сілы для наступнага штурму. Чым горшая сітуацыя ў эканоміцы — тым больш шанцаў на поспех чарговага штурму.

**Для даведкі:** Паводле афіцыйнай статыстыкі, намінальная налічаная сярэдняя зарплата ў Беларусі ў верасні 2020 года знізілася на 11,9 рубля ў параўнанні са жнiўнем і склала 1264,5 рубля. Прычым, зніжэнне фіксуецца ўжо рэгулярнае: у жніўні сярэдняя заробатная плата работнікаў складала 1276,4 рубля, у ліпені — 1287,5 рубля, паведамляе Белстат.

26 кастрычніка, у дзень абвешчанага страйку, Лукашэнка падпісаў указ №381 «Аб забеспячэнні разлікаў з бюджэтам», якім зрабіў больш жорсткай адказнасць кіраўнікоў прадпрыемстваў за несвоечасовыя разлікі з фондам сацыяльнай абароны насельніцтва. Уведзеная забарона на выплату кіраўнікам арганізацый усіх відаў прэмій пры наяўнасці запазычанасці перад ФСАН. Раней такая забарона дзейнічала толькі пры наяўнасці ў арганізацыі запазычанасці па выплаце плацяжоў у бюджэт.

***— Калі цяперашні і наступныя штурмы не будуць мець поспеху, як будзе развівацца сітуацыя? Напрыклад, на тых жа прадпрыемствах?***

— Гэтыя прадпрыемствы будуць павольна паміраць. Адсутнасць інвестыцый — гэта адсутнасць новых відаў прадукцыі. Адсутнасць новых відаў прадукцыі — гэта скарачэнне рынкаў збыту, у тым ліку і расійскіх. Адсутнасць рынкаў збыту — адсутнасць продажаў. Гэта значыць, што прадпрыемствы будуць скурчвацца, колькасць работнікаў на гэтых прадпрыемствах будзе змяншацца, рэшткі непрададзенай прадукцыі на складах будуць расці, абаротныя сродкі будуць скарачацца, прадпрыемствам будуць патрабавацца крэдытныя рэсурсы. Ва ўмовах адсутнасці знешніх крыніц крэдытавання любыя крэдыты будуць звязаныя з барацьбой Нацбанка і ўрада: за неўключэнне друкарскага станка. Калі пераможа ўрад, гэта прывядзе да інфляцыі.

Але самае цікавае, што, па вялікім рахунку, нават уключэнне друкарскага станка нічога не зменіць: альбо буйныя дзяржпрадпрыемствы памруць раней, альбо іх змогуць непрацяглы час патрымаць за кошт усплёску інфляцыі і збяднення насельніцтва. Пытанне ў тым, які са шляхоў абярэ цяперашняя ўлада. Шляхоў у яе — толькі гэтыя два, і больш у яе распараджэнні нічога няма.

**Для даведкі:** Буйныя і сярэднія прадпрыемствы даюць справаздачу па фінансавых паказчыках кожны месяц, але ўлады доўга займаюцца апрацоўкай даных, і выніковыя табліцы выходзяць праз 1,5 месяца пасля заканчэння справаздачнага перыяду. Напрыклад, цяпер даступная статыстыка за студзень-жнівень. Згодна з ёю, выручка арганізацый прамысловасці ўпала да 2019 года на 2,5%. Паколькі інфляцыя за гэты час таксама не стаяла на месцы, рэальныя тэмпы змены выручкі яшчэ горшыя. Амаль палова флагманаў прамысловасці (47,4%) у 2020 годзе адносіцца да нерэнтабельных або нізкарэнтабельных прадпрыемстваў. Чыстыя прыбыткі прамысловых прадпрыемстваў у 2020 годзе скараціўся ў 3,3 разы. Сумарны даўгі прампрадпрыемстваў на 1 верасня перавысілі 76,1 мільярда BYN, з пачатку года сума даўгоў павялічылася на 16,9%.


Фота Аляксандра Зяньковіча

***— Як стагнацыя і захаванне існуючай сітуацыі можа адбіцца на заробках працоўных і служачых?***

— Я не думаю, што будуць падзеі кшталту 2011 года, калі беларускі рубель абваліўся ў 2–3 разы: усё ж такі сяму-таму нашы чыноўнікі ад эканомікі навучыліся. У асноўным, сярэдняя зарплата ўжо шмат гадоў адвальваецца да 400 долараў у месяц, потым павольна паўзе да 500, потым адкочваецца зноў...

Зразумела, будзе паступовае зніжэнне налічаных заробкаў, будзе скарачэнне колькасці работнікаў прадпрыемстваў. Калі атрымаецца справіцца з кавідам, звольненыя работнікі будуць з'язджаць на заробкі. То-бок, гэта можа цягнуцца доўга — як сітуацыя Малдовы пачатку 2000-х, сітуацыя Прыднястроўя, сітуацыя Данбаса... Але я не думаю, што беларускі народ будзе трываць гэтую сітуацыю да такой ступені. Будзе чарговы штурм, які скончыцца поспехам.

**Для даведкі:** Сярэдні афіцыйны курс долара ў верасні склаў 2,61 BYN за 1 USD. Яшчэ ў жніўні курс Нацбанка быў роўны 2,49 BYN, а ў пачатку года, у студзені, — 2,11 BYN. Відавочна, што пры такім хуткім абясцэньванні беларускага рубля да долара рэзка паменшыўся памер сярэдняй зарплаты па краіне. У верасні налічаная зарплата ў Беларусі склала 484 USD. Нагадаем, гэта заробак да выліку падаходнага падатку (13%), унёску работніка ў ФСАН (1%) і прафсаюзных унёскаў. Гэта значыць, заробак «на рукі» адчувальна ніжэйшы. Апроч таго, абсалютная большасць насельніцтва (каля 2/3 работнікаў) не зарабляе сярэдні заробак.

Што ж тычыцца доларавага эквіваленту заробку, то сярэдні заробак у верасні 2020 года параўнальны з заробкам верасня 2012 года. Тады сярэдні заробак беларуса склаў 486,1 USD. Атрымліваецца, што доўгія гады ў краіне няма ніякага прагрэсу па заробках — дэвальвацыя зводзіць усе патугі чыноўнікаў у нуль. Можна сказаць, што ў дачыненні да даходаў Беларусь пражыла страчанае дзесяцігоддзе: заробкі ў лепшым выпадку стагнавалі, у горшым — падалі.

***— Дапусцім, Лукашэнка сышоў, у краіне абвешчаныя новыя свабодныя выбары. А што з эканомікай? Нам спатрэбіцца доўгі перыяд аднаўлення? Наколькі ён будзе хваравітым?***

— Пасля змены ўлады я наогул не чакаю ніякага пагаршэння эканамічнай сітуацыі. Гэта якраз той варыянт, калі сітуацыя можа, наадварот, вельмі хутка рушыць у лепшы бок — літаральна на працягу трох-чатырох месяцаў.

Па-першае, адразу ж прыйдуць інвестыцыі, — той самы «План Маршала для Беларусі», распрацаваны нашымі краінамі-суседкамі і прыняты ў ЕС.

Па-другое, напэўна, будуць падпісаны дамовы з Еўрапейскім Саюзам у плане зняцця перашкод у знешнім гандлі, і аналагічны дагавор са Злучанымі Штатамі, якія ўпарта адмаўляюцца прызнаваць нас краінай з рынкавай эканомікай.

Па-трэцяе, гэта будзе хуткае ўступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Па-чацвёртае, будуць зняты шматлікія абмежаванні для малога і сярэдняга бізнесу. Ва ўмовах дэмакратызацыі, павышэння надзеі і ўпэўненасці чалавека ў заўтрашнім і паслязаўтрашнім дні прывядуць да даволі хуткага росту інвестыцый у гэтым сектары — малога і сярэдняга бізнесу.

А, улічваючы геаграфічнае становішча Беларусі, калі Расія здыме рана ці позна ружовыя, зялёныя ці яшчэ не ведаю якія акуляры і паглядзіць на сітуацыю цвяроза, рэальна, то мы можам мець сітуацыю, калі не нам трэба будзе кідацца з Захаду на Усход за грашыма, а калі Захад і Усход будуць стаяць і канкураваць паміж сабою, хто на больш выгадных умовах прапануе Беларусі інвестыцыі.

**Для даведкі:** «План Маршала для Беларусі» падтрыманы Вышаградскай групай ЕС (Польшча, Чэхія, Славакія і Венгрыя). Ён уключае ў сябе стварэнне стабілізацыйнага фонду ў памеры мільярда еўра і іншыя захады для развіцця эканомікі Беларусі. Сродкі плануе выдаткаваць Еўрапейскі саюз і Міжнародны валютны фонд.

На думку польскага эканаміста Януша Вдзенчака, для Еўрасаюза падобныя меры падтрымкі не павінны стаць праблемай. Па яго словах, ВУП Беларусі цяпер параўнальны з ВУП Мазавецкага ваяводства Польшчы. Таму дапамога ў рамках «Плана Маршала для Беларусі» не абыдзецца Еўрапейскаму саюзу больш, чым фінансаванне аднаго з польскіх ваяводстваў.

# Вольгу арыштавалі нягледзячы на дзіця-інваліда, але яна верыць: «Праўда будзе за намі»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«У нас у Смаргоні дагэтуль шэсці праходзяць штонядзелю, а кожны вечар людзі збіраюцца ў цэнтры, каб проста паразмаўляць», — распавядаюць Ілля і Вольга Петуновы, мясцовыя актывісты. Вольга аказалася падазраванай па крымінальным артыкуле і была змешчана ў ізалятар. Дома ў гэты час застаўся сын з інваліднасцю.**



Вольга Петунова

### Няпросты лёс сям'і

Ілля — дырэктар прадпрыемства, якое выраблае посуд «Кухар». Вольга па адукацыі бухгалтарка. Некалі яна працавала ў банку, цяпер — валодае аўтсорсінгавай фірмай, якая прадастаўляе бухгалтарскія паслугі.

Дыягназ Вані, старэйшага сына Іллі і Вольгі, — разумовая адсталасць сярэдняй ступені. Вольга кажа, што інваліднасць ён атрымаў пры родах, праз халатнасць дактароў. Па гэтай прычыне яна заўжды прытрымлівалася пазіцыі, што ад дзяржавы ёй нічога не трэба, таму інваліднасць пэўны час хлопчыку не афармлялі. Але калі Ваню споўнілася 6 гадоў, а астатнія дзеткі, з якімі ён хадзіў у звычайны садок, пайшлі ў школу, Вольга ўсё ж афарміла яму інваліднасць. У выніку, Ваню далі 3-ю ступень страты здароўя.

Праз два гады Вользе прапанавалі ўладкаваць Івана ў спецыялізаваную школу ў Мінск. Яна так і зрабіла: «У гэтай школе Іван вучыўся 5 гадоў. У пятніцу мы яго забіралі адтуль, а ў панядзелак прывозілі. Як аказалася, гэта быў найлепшы варыянт, бо яго там навучылі ўсяму. Ён прыйшоў у школу і не ўмеў нават размаўляць, а сышоў з усімі базавымі ведамі».

**Памятаю, як на адным са сходаў, калі мы збіраліся ў ліцэі, я выйшла да мікрафона і сказала: «Я абяцаю, што на адным асобна ўзятым участку, у маёй школе, мы палічым галасы сумленна, чаго б мне гэтага ні каштавала»**

Калі Івану споўнілася трынаццаць, у яго з'явіліся праблемы з паводзінамі, абумоўленыя яго дыягназам. Да таго ж у Івана яшчэ эпілепсія. Сям'і прыйшлося забраць яго са школы і ўладкаваць у карэкцыйную школу ў Смаргоні. Праўда, адтуль хутка яго таксама забралі і перавялі на хатняе навучанне.

Каб нейкім чынам дапамагчы Івану, сям'я праходзіла розныя курсы лячэння. Івана нават вазілі ў Мінск на дэльфінатэрапію. Кожны год сям'я выязджала некуды на мора.

У сужонкаў ёсць і малодшы сын — Паша, яму хутка будзе 12.

— Напэўна Бог, даўшы Паўла, узнагародзіў мяне, — смяецца Вольга. — Ён вельмі неардынарны: займаецца вакалам, танцамі і выдатна вучыцца ў школе.

### Хвароба Вольгі

Калі Івану трэба было ісці ў школу, Вольга захварэла: рак малочнай залозы, другая ступень. Пачалося вельмі балючае для Вольгі лячэнне.

— Я вельмі цяжка пераносіла хіміятэрапію, — узгадвае Вольга. — Яна выбівала мяне з жыцця на тыдзень. Гэты тыдзень мяне ванітавала. Калі ён заканчваўся, ранкам я падымалася, нацягвала парык ды ішла працаваць. Працавала два тыдні, пасля — зноўку хімія.

Вольга лячылася 9 месяцаў. За гэты час яна не проста страціла валасы: яе цела пакрылася коркай, а пазногці на нагах згнілі.

— Калі сын — інвалід, а жонка — цяжка хварэе, ці ўзнікаюць думкі апусціць рукі? — пытаю Іллю.

— У мяне не было хістанняў. Кожнаму чалавеку даецца столькі, колькі ён можа панесці. У кожнага свой крыж.

Вольга кажа, што пытання, за што яе напаткалі хваробы, не ўзнікала: «З самага пачатку я сабе казала, што гэта не за нешта, а для чагосьці. Але, улічваючы той факт, што наша дзіця проста пашкодзілі, мы проста гэта прынялі. Падчас сваёй хваробы я дала сабе ўстаноўку: калі я буду жыць, а жыву я ўжо сем гадоў, то я буду заўжды дзякаваць Богу за тое, што даў мне гэтую хваробу, бо за гэты час я стала іншай».

Два гады таму ў Іллі здарыўся цяжкі інфаркт. Вольга кажа, што калі ён ляжаў у рэанімацыі, у яго ўжо ішла кроў з рота. Але дзякуючы таму, што яго хутка павезлі ў абласную бальніцу, Ілля выжыў.

Ужо больш за два гады Вольга марыць пра стварэнне цэнтра развіцця для дзяцей і маладых інвалідаў. Справа ў тым, што ў мясцовым карэкцыйным цэнтры дзеці з інваліднасцю могуць знаходзіцца толькі да 16 гадоў. Пасля, па сутнасці, яны застаюцца сядзець дома: «Іх маці не могуць сабе дазволіць нават захварэць. Спачатку мы хацелі стварыць фонд, прыцягнуць прадпрымальнікаў. Мы не хацелі ад дзяржавы нічога. Адзінае, што прасіла, — гэта памяшканне. Мы б там і зрабілі ўсё самі: і рамонт, і мэблю б набылі...».

Вакол Вольгі сабраліся аднадумцы: яны ездзілі па тых раёнах, дзе ўжо было арганізавана падобнае, шукалі спонсараў. Аднак атрымаць памяшканне яны так і не здолелі. Ідэя са стварэннем цэнтра не рэалізавалася.

Сужонкі заснавалі ў сваім рэгіёне Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва: супрацоўнічалі з райвыканкамам, праводзілі семінары для прадпрымальнікаў. Праўда, цяпер яны плануюць закрываць арганізацыю.

— Я ўжо выйшаў з раённай рады прадпрымальніцтва, — кажа Ілля. — Мы хочам гэтым займацца, але пры іншых людзях ва ўладзе. Займацца гэтым цяпер — гэта здрадніцтва.

### «Прывітанне фальсіфікатарам!»

Петуновы заўжды займалі актыўную грамадзянскую пазіцыю. Калі яны пабачылі кандыдатуру Віктара Бабарыкі на выбарах, адразу далучыліся да яго ініцыятыўнай групы і збіралі подпісы. Пасля Вольгу выбралі сябрам участковай камісіі.

— Памятаю, як на адным са сходаў, калі мы збіраліся ў ліцэі, я выйшла да мікрафона і сказала: «Я абяцаю, што на адным асобна ўзятым участку, у маёй школе, мы палічым галасы сумленна, чаго б мне гэтага ні каштавала».

Пасля гэтага Вольгу адправілі на самаізаляцыю, бо ў некага з камісіі нібыта пацвердзіўся каронавірус. З гэтай прычыны Вольга не змагла прысутнічаць 9 жніўня на выбарах як сябар камісіі.

Пасля выбараў Вольга была адной з тых, хто арганізоўваў і праводзіў мірныя дэманстрацыі: «Мы выносілі калонкі, мікрафон, паведамлялі народу навіны». Вольга цяпер ведае ўсіх міліцыянтаў у твар. Калі бачыць некага ў горадзе, то можа кінуць: «Прывітанне фальсіфікатарам!». Увесь паслявыбарчы час яна намагалася не прапускаць ніводнай акцыі, чым, напэўна, і прыцягнула да сябе ўвагу. Спачатку яе запрасілі ў РАУС на размову. Пасля пачаліся суды, дзе і Вользе, і Іллю прысудзілі штрафы за ўдзел у мітынгах.

Аднак у канцы верасня яе змясцілі ў ізалятар, адарваўшы ад сына з інваліднасцю.

Падставай стала тое, што Вольга нібыта расклейвала па горадзе ўлёткі з фотаздымкамі міліцыянераў, іх асабістымі данымі і канстатацыямі супрацьпраўных дзеянняў. Але Вольга кажа, што ў той вечар, калі расклейваліся ўлёткі, яна з мужам была дома і рыхтавалася да суда, які мусіў адбыцца на наступны дзень.



Ілля Петуноў

«Канечне, міліцыянты вельмі раззлаваліся, выклікалі на допыт хлопца, аднаго з нашых актывістаў, — распавядае Вольга. — Яго запрасілі на гутарку, мы яго цэлы дзень пільнавалі каля РАУСа, але яго так і не выпусцілі. У выніку атрымалася, што ён нібыта здаў некаторых з нашых актывістаў. Траіх чалавек пасля гэтага затрымалі».

### Вобшук на вачах у сына

Увечары 25 верасня прыехалі і дадому да Петуновых. У той дзень Іллю было блага: пасля інфаркту ён пастаянна прымае лекі, перыядычна ў яго падвышаецца ціск: «Я памерала яму ціск і збіралася выклікаць хуткую дапамогу. А тут — прыехала міліцыя».

Супрацоўнікі міліцыі ў доме сталі праводзіць вобшук. Па словах Вольгі, ён праходзіў абсалютна ў добразычлівай абстаноўцы: «Панятымі дазволілі запрасіць маіх сябровак. Пазабіралі купу дыскаў, дзіцячыя дыскі, флэшкі, купу старых тэлефонаў, камп'ютар Івана. Я яшчэ і скрыні з-пад абутку ім давала, каб яны маглі скласці ў іх рэчы. У мяне стварылася ўражанне, што яны падышлі да справы фармальна: пахапалі ўсё, што ляжала на паверхні. Удзельнічаў і той міліцыянт, які быў на тых расклееных улётках. Я падумала, што яны праводзяць вобшук у актывістаў, каб знайсці тых, хто друкаваў улёткі, бо той хлопец прызнаўся, што ён іх толькі расклейваў».

Міліцыянты адабралі тэлефон і ў Вані. А ён не можа без яго жыць.

— Я папярэдзіла міліцыянтаў, што Ваня ніколі не развітваецца са сваім тэлефонам. Нават тады, калі ён глядзіць тэлевізар, то трымае тэлефон у руках. Я прасіла, каб яны паглядзелі яго тэлефон дома, у ім нават ніякіх месенджараў не было. Але калі яны апячаталі скрыню з тэлефонам, і Ваня зразумеў, што гаджэт яму не вярнуць, у яго пачалася істэрыка. Ужо пры міліцыянтах Ваня стаў крычаць, кідацца рэчамі. Вольга прасіла супрацоўнікаў міліцыі, каб тыя аддалі яму тэлефон, бо ў той час яна не магла яму знайсці тэлефон на замену.

А палове на 11-ю вечара Вользе сказалі, што яна затрымана. Жанчына зноўку стала прасіць міліцыянтаў, каб яе забралі ранкам, бо ёй трэба супакоіць дзіця і знайсці яму тэлефон, што яна не можа яго пакінуць на хворага мужа. Але на свае просьбы пачула, што калі не пойдзе сама, то на яе надзенуць кайданкі і забяруць сілай.

«Калі сын зразумеў, што яшчэ і я сыходжу, то яму стала яшчэ горш», — узгадвае Вольга. У выніку яна ўгаварыла міліцыянтаў пад'ехаць да дому маці, каб папрасіць яе супакоіць Ваню.

Калі Вольгу забралі ў следчы ізалятар, Ваня стаў скідваць цацкі з лесвіцы, істэрыць і плявацца. Каб супакоіць сына, Ілля патэлефанаваў у хуткую, аднак на выклік прыехаць адмовіліся. Тады Ілля патэлефанаваў у міліцыю. Дзяжурны яму адказаў: «А калі вы на плошчу хадзілі, то думалі пра сваё дзіця?». Яшчэ раз у 102 патэлефанавала маці Вольгі. У выніку прыехала інспектар па справах непаўнагадовых, спытаў у Вані, чаму ён так расхваляваўся. Ваня яму ўсё патлумачыў. Міліцыянт параіў «наліць яму кропелек» і з'ехаў.




**Больш за ўсё Вольгу абурае тое, што ў ніводным адказе на скаргу не фігуруе «дзіця-інвалід»: «Яны пішуць, што пры пэўных абставінах маці непаўнагадовых дзяцей могуць забраць. А тое, што я паўсюль пішу, што у мяне — дзіця з інваліднасцю, застаецца без увагі»**



Ілля і Вольга

### Затрымалі за тры цюбікі клея

У ізалятары Вольга правяла амаль 72 гадзіны. Следчы да Вольгі прыйшоў толькі а 22 гадзіне на наступны дзень. Вольга адразу абвясціла галадоўку: «Адвакатка тады сказала мне, што калі яна перадасць гэтую навіну майму мужу, то ён не ўзрадуецца. Але я пераканала, што муж не будзе здзіўлены, бо ведае маё нутро. Таму і перадаў мне ў ізалятар толькі бутэльку вады».

Аказалася, што той хлопец, які расклейваў лістоўкі па горадзе, на допыце нібыта ўзгадаў Вольгу. «У пратаколе было напісана, на плошчы ён даў мне тры цюбікі клею. Пасля таго, як я выйшла з турмы, паразмаўляла з хлопцам. Ён сцвярджаў, што яму прадыктавалі маё прозвішча, якое трэба было запісаць у пратакол».

Падчас следства ў Вольгі ўжо ўзялі адбіткі пальцаў, бо ў адной са сметніц былі знойдзены пальчаткі і клей. Следчымі была заведзена крымінальная справа па артыкуле 188 крымінальнага кодэксу (паклёп). Па ім могуць пакараць штрафам, або выпраўленчымі працамі тэрмінам на два гады або арыштам, ці абмежаваннем свабоды тэрмінам да трох гадоў.

Пасля таго, як Вольга выйшла з ізалятара, то разам з адвакатам падала скаргу на незаконнае ўтрыманне. І ў Смаргонскім, і ў Гродзенскім

**«Калі сын зразумеў, што яшчэ і я сыходжу, то яму стала яшчэ горш», — узгадвае Вольга. У выніку яна ўгаварыла міліцыянтаў пад'ехаць да дому маці, каб папрасіць яе супакоіць Ваню**

судзе яе не задаволілі. Больш за ўсё Вольгу абурае тое, што ў ніводным адказе на скаргу не фігуруе «дзіця-інвалід»: «Яны пішуць, што пры пэўных абставінах маці непаўнагадовых дзяцей могуць забраць. А тое, што я паўсюль пішу, што у мяне — дзіця з інваліднасцю, застаецца без увагі».

Юрыст, дырэктар Офіса па правах людзей з інваліднасцю, Сяргей Драздоўскі кажа, што па беларускім заканадаўстве бацькоў дзяцей з інваліднасцю могуць затрымліваць на 72 гадзіны. «Аднак гэты выпадак супярэчыць прафесійнай этыцы супрацоўнікаў МУС Рэспублікі Беларусь №67 ад 2013, — каментуе Драздоўскі. — На 72 гадзіны маці дзіцяці з інваліднасцю затрымаць могуць, але асудзіць на адміністрацыйны арышт — не».

### Змагацца да канца

— Калі я вярнулася з ізалятара дадому, дома быў жах, — узгадвае Вольга. — Мая мама, канечне, намагалася супакоіць Ваню, але ён быў злы, выганяў настаўнікаў. Пасля сустрэчы са мной у яго з'явілася святло ў вачах. Міліцыянты прачыталі артыкул пра маё затрыманне на партале Naviny.by. Начальнік следчага адзела пасля сказаў, што яны не ведалі, што мой сын — інвалід. Дазволілі забраць тэлефон. Я прывязла Ваню ў пачуцці, ён стаў аднаўляцца.

Вольга хоча падаваць скаргу на сваё незаконнае ўтрыманне ў Вярхоўны суд. Але найбольш яна абурана тым, што яе адарвалі ад сына з інваліднасцю, які знаходзіўся на той момант у цяжкім стане: «Хачу проста дабіцца праўды. Хаця мне цяжка вымаўляць словазлучэнне "дабіцца праўды", бо разумею: якая тут можа быць праўда?»

— Але мы ўсё адно будзем змагацца, — кажа Ілля.

— Вам не страшна? — пытаю ў Вольгі.

— Не, — усміхаецца яна. — Мы да гэтага былі маральна гатовы. Я бачыла, што за мной назіраюць. Канечне, я не магла падумаць, што мяне будуць абвінавачваць па крымінальнай справе. Але за маю актыўную грамадзянскую пазіцыю мяне ўсё адно будуць запалохваць.

У турме Вольга перачытвала сваю любімую кнігу «Майстар і Маргарыта»: «Яна ўратавала маю душу на той момант. Кожнаму будзе дадзена па веры яго. Таму мы верым і спадзяемся, што праўда будзе за намі».

**Фота Вікторыі Чаплевай і з асабістага архіва сям'і Петуновых**

# Чылійскую канстытуцыю чакаюць змены

Алег НОВІКАЎ

**Чылійцы пераважнай большасцю прагаласавалі за тое, каб перапісаць Канстытуцыю краіны, прынятую ў гады кіравання генерала Аўгуста Піначэта. Для гэтага спатрэбіўся роўна год пратэстаў.**



Фота www.bbc.com

Што робяць дыктатары на наступны дзень усталявання дыктатуры? Хто як, а Аўгуста Піначэт на наступны дзень пасля ваеннага перавароту 11 верасня 1973 года сабраўся з трыма блізкімі паводле светапогляду генераламі, каб прапісаць прававыя асновы новага рэжыму. Присутнымі быў складзены афіцыйны акт, які прыпыняў дзеянне Канстытуцыі 1925 года і распускаў парламент. Галоўным органам вярхоўнай улады ў краіне абвяшчалася хунта. Сам Піначэт быў прызначаны новым кіраўніком краіны, хаця напачатку ўсе чацвёра дамовіліся змяняцца на гэтай пасадзе.

Таксама праз нейкі час планавалася вярнуць у дзеянне старую Канстытуцыю. Аднак затым было прынята рашэнне стварыць Асноўны закон з нуля. Была прызначаная адпаведная камісія. У выніку ў 1980 годзе тэкст дакумента быў прадстаўлены грамадскасці і вынесены на агульнанацыянальны плебісцыт, на якім яго падтрымалі 67 працэнтаў з тых, хто прагаласаваў. Вынікі галасавання былі ад самага пачатку вельмі сумнеўныя з-за шматлікіх парушэнняў: апазіцыі не дазволілі праводзіць сваю кампанію, спісы выбаршчыкаў не складаліся, падлік галасоў ажыццяўляўся пад кантролем вайскоўцаў, і гэтак далей. Тым не менш, Канстытуцыя набыла моц вясной 1981 года.

Тая Канстытуцыя была вельмі своеасаблівай. Яна бязмежна шырока надзяляла грамадзян правамі ды свабодамі, але патрабавала, каб тыя паважаліся інстытуты ўлады. Фокус быў у тым, што адначасова Канстытуцыя прыпыняла дзеянне большасці канстытуцыйных нормаў да 1990 года. Таксама да 1990-га прадугледжвалася праўленне Піначэта без якіх-небудзь выбараў. Нарэшце, у Канстытуцыі была замацавана важная роля Нацыянальнай рады бяспекі, палову чальцоў якой складалі вайскоўцы.

Але галоўная фішка Канстытуцыі 1980-га — у тым, што ў яе было практычна немагчыма ўнесці змены. Для гэтага патрабавалася атрымаць 3/5 галасоў заканадаўцаў. А для ўнясення зменаў, якія тычацца ўзброеных сілаў, паўнамоцтваў Нацыянальнай рады бяспекі і Канстытуцыйнага суда, патрабавалася, апроч іншага, 2/3 галасоў у кожнай з дзвюх палат парламента. Пры гэтым для ўнясення любых зменаў была неабходная згода прэзідэнта. Як вынік, у выпадку наяўнасці дэмакратычнай большасці ў парламенце, ёй усё роўна было б надзвычай складана рэфармаваць дзяржаўныя інстытуты.

Як бачым, па выніках прыняцця Канстытуцыі ў 1980 годзе ваенная дыктатура захоўвалася, але набывала прыкметы легітымнасці. Надаць ёй яшчэ большае падабенства да дэмакратыі мелі намер пасля плебісцыту па пытанні захавання Піначэта ва ўладзе ў 1988-м. Але тут нешта пайшло не так. Нягледзячы на дзяржаўны кантроль за СМІ, нечакана большая частка насельніцтва краіны выказала сваю нязгоду з тым, каб Піначэт быў гарантам яшчэ восем гадоў. Сыход Піначэта стаў падставай для абрання новага прэзідэнта і парламента, а таксама ўнясення ў тэкст Канстытуцыі шматлікіх паправак.

Зрэшты, у шэрагах левай апазіцыі многія працягвалі патрабаваць поўнага перагляду Асноўнага закона, які разглядалі як ганебны рэлікт тыраніі. У 2015-м прэзідэнтка-сацыялістка Мішэль Бачэлет запусціла працэс распрацоўкі новай Канстытуцыі, аднак з-за шэрагу прычын гэта ініцыятыва правалілася.

Новым стымулам для канстытуцыйнага працэсу аказаліся... кветкі. Уздым цэнаў на праезд у сталічным транспарце восенню мінулага года выклікаў беспрэцэдэнтную хвалю пратэстаў у краіне, што яшчэ больш інспіравала гвалт з боку карабінераў. Праграма маніфестантаў вельмі хутка выйшла за межы патрабавання замарозіць тарыфы на транспарце. Неўзабаве пратэстоўцы запатрабавалі прыняць новую Канстытуцыю, здольную пакончыць з глыбокай сацыяльнай няроўнасцю ў грамадстве.

У выніку ўлада была вымушаная прыслухацца да вуліцы. 15 лістапада 2019 года было дасягнута палітычнае пагадненне, падпісанае дэпутатамі кіруючай і апазіцыйных партый аб распрацоўцы новай Канстытуцыі. Але перш за ўсё чылійцам прапанавалі ў рамках рэферэндуму адказаць на пытанне, ці хочуць яны новую Канстытуцыю. 25 кастрычніка 2020 года за змяненне галоўнага закона выказаліся каля 78 працэнтаў грамадзян. Тысячы жыхароў краіны выйшлі на вуліцы святкаваць перамогу.

Якая Канстытуцыя будзе ў Чылі? Пакуль цяжка сказаць. Але, напэўна, там не будзе блока пра ролю Узброеных сіл і Нацыянальнай рады бяспекі як гарантаў дзяржаўных інстытутаў. Наўрад ці ў новай рэдакцыі захаваецца пункт пра тое, што «распаўсюд дактрын, якія падтрымліваюць сацыяльную барацьбу, з'яўляецца канстытуцыйным правапарушэннем». Многія чылійцы заклікаюць да большай ролі дзяржавы, асабліва ў сферы адукацыі або пенсійнай сістэме. Чакаецца, што рэформа пашырыць магчымасці парламента.

З іншага боку, наўрад ці эліта пагодзіцца з пераменамі, якія, як мінімум, прымусяць яе плаціць больш грошай на сацыялку. Таму трэба чакаць вострую барацьбу на выбарах дэпутатаў Канстытуцыйнага сходу. У сувязі з гэтым у лагеры маніфестантаў робяць адназначную выснову: неабходна і далей працягваць ціск вуліцы на ўлады.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Кіраўнік службы знешняй разведкі Расіі Сяргей Нарышкін прыбыў у Мінск. Лукашэнка быў у захапленні ад сустрэчы з адным з паплечнікаў Уладзіміра Пуціна і запэўніваў, што гэты візіт выкліча фурор у медыя. Але ў яшчэ большым захапленні быў сам Нарышкін. Па тым, як Нарышкін глядзеў, можна зрабіць простую выснову: у Крамлі ўпэўненыя, што цяпер, пасля пачатку масавых пратэстаў у Беларусі, Лукашэнка канчаткова трапіў у расійскую пастку, збудаваную для яго краіны яшчэ ў дзевяностыя гады. І цяпер пытанне ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці — з дапамогай Лукашэнкі ці без яго — выключна пытанне часу».

**Эспрэсо (Украіна)**

«Грошы любяць стабільнасць і цішыню. Гэта Лукашэнка цяпер не можа забяспечыць у Беларусі пры ўсім жаданні, паколькі застаецца галоўным правакацыйным фактарам — незадаволенасць нізоў накіраваная выключна на яго. Надзеі, што незадаволеныя самі стомяцца ад сваёй незадаволенасці і краіна вернецца да звычайнага жыцця, пакуль не апраўдваюцца, нягледзячы на ўстойлівасць рэжыму, жорсткія дзеянні міліцыі, арышты, звальненні і нават пагрозы прымяніць баявую зброю. Калі дзясяткі тысяч чалавек не спалохаліся да гэтага часу — яны не спалохаюцца і надалей. Іх дастаткова, каб канфлікт працягнуў тлець, а паралельна ў яго агні будзе згараць беларускі дабрабыт».

**Взгляд (Расія)**

«Нядаўняе ўмяшанне Расіі ў Беларусі, дзе Мінск можа проста страціць суверэнітэт у выніку любой здзелкі паміж Пуціным і Лукашэнкам з мэтай захавання Лукашэнкі ва ўладзе, — гэта ўмяшанне стварае яшчэ большую пагрозу паўночнай мяжы Украіны».

**Chatham House (Вялікабрытанія).**

«Беларусь будуць трансфармаваць з аўтарытарнай дзяржавы ў прэзідэнцка-парламенцкую рэспубліку. Паколькі зоймуцца гэтым, хутчэй за ўсё, людзі з Масквы, то і вынік іх дзейнасці будзе падобны на палітычны лад Расійскай Федэрацыі. А менавіта: вялікія паўнамоцтвы ў прэзідэнта, буйная фракцыя "партыі ўлады" ў парламенце. Але палітычнае прадстаўніцтва атрымаюць і "заходнікі", і тыя, хто настойвае на больш актыўнай інтэграцыі з Расіяй. Інакш кажучы, пасля многіх гадоў кіравання ў ручным рэжыме, у Беларусь вернецца палітыка».

**EADaily (Расія)**

«З аднаго боку, Ціханоўская — сімвал пратэсту, свабоды і дэмакратычных выбараў, і беларусам прыемна ўсведамляць, што яе прымае канцлер Меркель. У мінулым апазіцыйныя палітыкі не былі ўдастоены такога гонару. Але, з іншага боку, у Ціханоўскай няма ўсеагульнага ўплыву. Яе штаб не кіруе пратэстамі».

**Deutsche Welle (Германія)**

«Мяркуючы па ўсім, кіраўнік беларускай дзяржавы гатовы да трансферу ўлады, але ён не можа выйсці з гэтага палітычнага крызісу, не вырашыўшы канцэптуальных пытанняў. Новае кіраўніцтва павінна складацца з людзей, якія карыстаюцца даверам у яго і ў Масквы, а інакш гэтая мадэль правaліцца. І самае галоўнае: гэтая новая ўлада павінна карыстацца даверам беларускага народа».

**Страна (Украіна)**

# Хто яшчэ верыць у нашы рэферэндумы?

Алег НОВІКАЎ

**Улады абяцаюць нам дзяжурны рэферэндум (гэтым разам — наконт Канстытуцыі), хаця шмат хто ў свеце лічыць, што гэты інстытут за апошнія сто гадоў быў моцна дыскрэдытаваны аўтакратычнымі рэжымамі.**




Скепсіс наконт святасці рэферэндуму як універсальнага спосабу вызначыць волю народа з'явіўся не на пустым месцы. Ужо ў XIX стагоддзі многія аўтарытарныя палітыкі ўжывалі гэтую форму дэмакратыі для легітымізацыі захопу ўлады. Напэўна, далей за ўсіх пайшоў Напалеон, які прапанаваў французам адказаць на пытанне, ці з'яўляецца ён абраным Богам памазанцам. Менавіта такі чалавек у манархічнай традыцыі мог насіць тытул імператара, пра які марыў Банапарт. У лістападзе 1804 года каля 99,93 працэнта ўдзельнікаў рэферэндуму падалі галасы за стварэнне імперыі на чале з імператарам Напалеонам.

Так ці інакш, да пачатку XX стагоддзя былі сфармуляваныя асноўныя прынцыпы крытыкі рэферэндумаў. Іх аўтары сцвярджаюць, што выбаршчыкі на рэферэндуме, хутчэй за ўсё, кіруюцца сітуацыйнымі забабонамі, чым сур'ёзнымі разважаннямі. Як правіла, удзельнікі рэферэндумаў недастаткова інфармаваныя, каб прымаць рашэнні па складаных або тэхнічных пытаннях. Нарэшце, на грамадзян можа паўплываць манаполія на інфармацыю, банальнае запалохванне, створаны ў медыя культ асобы, дарагія рэкламныя кампаніі. Калі эфектыўна задзейнічаць хоць адзін з пералічаных вышэй рэсурсаў, то ў прынцыпе можна нават сумленна лічыць галасы.

Найбольш моцна пазіцыі крытыкаў інстытута рэферэндуму ўзмацніліся ў 1930-я гады, калі рэферэндумы для маскіроўкі сваёй рэпрэсіўнай палітыкі пачаў ладзіць рэжым нацыстаў. Сапраўды, Гітлер любіў праводзіць рэферэндумы. Усяго за сем гадоў — з 1932 па 1938, — у нацысцкай Германіі адбылося восем агульнанацыянальных рэферэндумаў. Прычым на іх вырашаліся самыя розныя пытанні міжнароднага і ўнутранага палітычнага жыцця.

Безумоўна, найважнейшы рэферэндум для Гітлера адбыўся 19 жніўня 1934 года, калі немцы прагаласавалі за аб'яднанне дзяржаўных пасадаў прэзідэнта (кіраўніка дзяржавы) і канцлера (кіраўніка ўрада). Галасаванне праводзілася ў сувязі са смерцю дзеючага прэзідэнта Германіі Паўля фон Гіндэнбурга (2 жніўня 1934 года) замест пазачарговых прэзідэнцкіх выбараў. У выніку за аб'яднанне вышэйшых дзяржаўных пасад прагаласавалі 89,93%, а супраць — 10,07%. Такі вынік дазволіў Гітлеру прыняць тытул «фюрэр і рэйхсканцлер».

Ёсць меркаванне, што такой «элегантнай перамогай» Гітлер абавязаны маніпуляцыям з паперамі нябожчыка Гіндэнбурга. Той, нібыта, пакінуў палітычны тастамент, у якім, як стары кайзераўскі вайсковец, прапаноўваў на пасаду прэзідэнта чальца дома Гогенцолернаў. Гэты дакумент нацысты схавалі і запусцілі інфармацыйную кампанію пра тое, што нябожчык бачыў на пасадзе пераемніка толькі Гітлера. Так ці інакш, любоў Гітлера да рэферэндумаў з'яўляецца непасрэднай прычынай таго, чаму пасля Другой сусветнай вайны ў ФРГ нельга праводзіць рэферэндумы на федэральным узроўні.

Звярталіся да рэферэндумаў і іншыя дыктатары. Напрыклад, Франсіска Франка, які на практыцы даказаў значэнне фармулёўкі пытання для правядзення такіх акцый. У 1947 годзе іспанцам прапанавалі адказаць на пытанне, ці падтрымліваюць яны пераход краіны ад дыктатуры Франка да канстытуцыйнай манархіі з умовай таго, што менавіта каўдыльё павінен называць імя манарха і ў выпадку сваёй смерці перадаць таму краіну.

Такім чынам, удзельнік рэферэндуму трапляў у пастку. У выпадку галасавання за пераход краіны да нормаў канстытуцыйнай манархіі ён аўтаматычна падтрымліваў пажыццёвую дыктатуру Франка. Галасуючы супраць прапановы, ён выступаў за тое, каб пакінуць усё як ёсць, а дакладней — тую самую дыктатуру Франка. Тым не менш, надзея на дэмакратызацыю хаця б у аддаленай будучыні прывяла многіх на ўчасткі і дазволіла рэжыму атрымаць 94 працэнты «за». Шмат хто на Захадзе ўбачыў у гэтай лічбе відавочны доказ легітымнасці дыктатуры, з якой так ці інакш давядзецца мець справу.

Зрэшты, пры дыктатурах можна праводзіць рэферэндумы наогул без усялякіх дэкарацый. Так зрабіў дыктатар Фердынанд Маркас на Філіпінах у 1973 годзе. Рэферэндум быў унікальны ўжо таму, што ў краіне дзейнічала ваеннае становішча, а ў такіх умовах праходзіць усеагульнае «дэмакратычнае» галасаванне, — гэта ўжо нонсэнс. У ліку іншых пытанняў філіпінцам прапанавалі падтрымаць ідэю падаўжэння ваеннага становішча. Звычайныя ўчасткі для галасавання вырашылі замяніць лакальнымі сходамі грамадзян, якія павінны былі выказацца «за» або «супраць» шляхам узняцця рук. Зрэшты, журналісты пісалі, што ўлады нават паленаваліся праводзіць тыя сходы і адразу напісалі, што атрымалі на рэферэндуме 90,77 працэнта падтрымкі.

Нарэшце, аргументаў апанентам рэферэндумаў дадалі плебісцыты на постсавецкай прасторы. Для мясцовых кіраўнікоў усенародныя апытанні сталі любімым спосабам падаўжэння паўнамоцтваў без усялякіх выбараў. Усіх пераплюнуў незабыўны Туркменбашы Сапармурат Ніязаў, які ў 1994 годзе запытаў у народа санкцыю на тое, каб без выбараў правіць адразу да 2002 года. І, калі верыць мясцоваму ЦВК, увесь народ адгукнуўся на заклік любімага правадыра. Згодна з выніковым пратаколам, абсалютна ўсе (!) грамадзяне з правам голасу ў Туркменістане прыйшлі на ўчасткі. І з іх толькі 212 чалавек (0,1 працэнта!) выказалі нязгоду, а ўсе астатнія — 99,99 працэнта — сказалі Ніязаву «так».

Такім чынам, відавочна, што абяцаны ўладай рэферэндум без забеспячэння шматлікіх дэталяў — свабоды дэбатаў, празрыстасці падліку, свабоды сходаў і меркаванняў, — будзе ўспрымацца ў грамадстве неадназначна. Амаль як апошні рэферэндум у Расіі пра абнуленне тэрмінаў Пуціна, які прайшоў у час пандэміі і спарадзіў мноства анекдотаў. Кшталту такога: «З-за каранціну на рэферэндуме будзе пытанне пра тое, што Пуціну нельга пакідаць прэзідэнцкую пасаду».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ганна Акапян



Жонка прэм'ер-міністра Арменіі Нікола Пашыняна ў складзе атрада з 13 жанчын пройдзе ваенныя зборы і адправіцца ў Нагорны Карабах.

«З заўтрашняга дня атрад з 13 жанчын, у тым ліку і я, прыступіць да ваенных заняткаў. Праз некалькі дзён мы адправімся абараняць радзіму. Мы не можам саступіць ні радзіму, ні свой гонар саперніку», — напісала Ганна Акапян на сваёй старонцы ў Facebook.

Раней, пасля пачатку ваенных дзеянняў у Нагорным Карабаху, Акапян на сваім афіцыйным сайце паведаміла, што хоча правесці 45-дзённыя жаночыя вайсковыя зборы. У іх могуць удзельнічаць жанчыны ад 18 да 27 гадоў. Відавочна, учынак Ганны мае хутчэй сімвалічнае значэнне. Яго мэта — мабілізаваць армянскае грамадства ў няпростых умовах. За апошні месяц вайсковых дзеянняў паўднёвы корпус азербайджанскай арміі, што разбіў армянскую групоўку ў даліне ракі Аракс і ў Геянскім стэпу, далёка прасунуўся да армянскай мяжы.

З іншага боку, цяпер армяне атрымалі невялікі перадых. На выходныя азербайджанскія войскі не здолелі наблізіцца да карабахскага горада Лачына на адлегласць, якая дазваляе пачаць абстрэл Лачынскага калідору — галоўнага маршруту паставак з Арменіі ў Карабах.

### Фрыдрых Мерц



Галоўны прэтэндэнт на вакансію лідара партыі Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) пасля сыходу на пенсію Ангелы Меркель і адначасова яе галоўны крытык падазрае, што Меркель рыхтуе змову з мэтай не дапусціць абрання яго кіраўніком партыі. Партыйнае лідарства таксама дае шанец заняць пасаду федэральнага канцлера.

Падставай для такіх падазрэнняў стала рашэнне партыі адкласці запланаваны на пачатак снежня з'езд, на якім меркавалася абраць старшыню. Прычына — рост за апошнія некалькі тыдняў маштабу каронавіруснай эпідэміі. Таму вырашана перанесці мерапрыемства на наступны год, а канкрэтную дату яго правядзення ўзгадніць на сустрэчы прэзідыума 16 студзеня 2021-га.

Фрыдрых Мерц адрэагаваў на гэта вельмі жорстка. «Я заўважыў, што некаторыя фракцыі партыйнага істэблішменту хочуць перашкодзіць мне стаць старшынёй партыі, і цяпер гэта таксама звязана з партыйным з'ездам», — заявіў ён журналістам. Палітык таксама лічыць, што альтэрнатывай партыйнаму з'езду магла б стаць інтэрнэт-канферэнцыя або галасаванне па пошце.

### Алег Ляшко



Кіраўнік украінскай папулісцкай Радыкальнай Партыі, «Жырыноўскі» мясцовага разліву, якога ўся Украіна ведае праз скандальныя выказванні ды ўчынкі, падаецца, пакідае палітычную сцэну. Палітык-старажыл прайграе выбары па чарнігаўскай мажарытарнай 208-й акрузе ў Вярхоўную Раду Украіны, якія адбыліся 25 кастрычніка.

Паводле папярэдніх падлікаў, больш за ўсё галасоў на ўчастку атрымаў кандыдат ад партыі «Слуга народа» Анатоль Гунько, за якога прагаласавалі 35,76%. Ляшко адстае ўсяго на 0,1 працэнта. Але гэта хутчэй негатыўны, а не пазітыўны паказчык. У прэсе шмат пішуць, што Ляшко нячыстымі спосабам дамогся, каб «Слуга народа» выставіў супраць яго менавіта Гунько, якога лічыў самым слабым канкурэнтам. Як бачым, у выніку выбаршчык палічыў за лепшае абраць каго заўгодна, абы не Ляшко.

Значна цікавей, што поспех Гунько — ледзь не адзіны прарыў для партыі Зяленскага. У той жа дзень праходзілі мясцовыя выбары, на якіх «Слугі народа» пацярпелі сапраўдную катастрофу, не атрымаўшы ні адной пасады мэра ў абласных цэнтрах. У агульным заліку ў іх толькі 15–17 працэнтаў, хоць на выбарах мінулага года за іх галасавалі пад 45 працэнтаў. Такі правал — прамы шлях да датэрміновых парламенцкіх, а магчыма, і прэзідэнцкіх выбараў.

# «Думаў, што Сталін памёр — і ўсё змянілася. Аднак яго дух у Беларусі яшчэ жыў»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Беларускі літаратурны крытык і перакладчык Раман Фёдаравіч Ляпіч адсядзеў у ГУЛАГу і выйшаў на волю ў 1946 годзе. Ён быў адным з тых, хто прайшоў праз усе выпрабаванні сталінскай рэпрэсіўнай сістэмы, Успаміны яго жонкі даюць магчымасць зразумець, праз што праходзілі ахвяры НКУС у 1930–1940-я гады.**

### З сялян...

Нарадзіўся Раман Ляпіч у 1906 годзе ў вёсцы Бор Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі парабкаваў. У 1923 годзе будучы навуковец пераехаў у Мінск, дзе працаваў у саўгасе «Трасцянец». У 1926 годзе ён скончыў Школу міліцыі, а потым вучыўся на рабфаку і літаратурным факультэце БДУ. З 1931 года пачынаецца яго супраца з газетамі «Звязда», «Рабочий». Пры гэтым Ляпіч працягваў займацца навукай, скончыў аспірантуру АН БССР, пасля чаго працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам інстытута літаратуры і выкладаў у Мінскім педагагічным інстытуце. У сакавіку 1938 года яго прызначылі дэканам філалагічнага факультэта.

Ляпіч актыўна займаўся навуковай дзейнасцю. Раман Фёдаравіч напісаў рэцэнзіі на кнігі Платона Галавача і Алеся Звонака, пераклаў на рускую мову творы Змітрака Бядулі і Міхася Лынькова. Яго пяру належала і шмат рэцэнзій на тэатральныя п'есы і спектаклі. Вось вытрымка з адной з іх, якая датуецца 1932 годам: «Хмара выведзены ў п'есе як характэрны тып раз'юшанага вялікадзяржаўнага шавініста, які выпадкова трапіў у партыю. "Апляваліі Расію… Прыедзеш у Беларусь — беларусізацыя, у Украіну — украінізацыя, у Арменію…", — гаворыць ён Віхуры, знаходзячыся пад уздзеяннем алкаголю. Пры гэтым ён імкнецца падвесці пад сваю шавіністычную "тэорыю" марксісцкую базу, заяўляючы: "Хачу гаварыць на той мове, на якой гаварыў Ленін"».

Падзеі першай паловы 1930-х гадоў, звязаныя з так званай «барацьбой супраць нацдэмаўшчыны», накладаюць свой адбітак на працу Ляпіча. У адной з рэцэнзій ён піша: «Гэтаму пералому значна спрыяў разгром беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў. Выкрыццё перад савецкай грамадскасцю брудных спраў, шпіёнска-дыверсійнага твару гэтых агідных агентаў польскіх і нямецкіх фашыстаў дапамагло тым беларускім пісьменнікам, якія ў той або іншай ступені знаходзіліся пад уплывам нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі, зразумець контррэвалюцыйную сутнасць нацдэмаўшчыны.

Пад уздзеяннем усяго гэтага Янка Купала робіць рашучы перагляд сваіх ранейшых пазіцый, самакрытычна спрабуе ўсвядоміць і ацаніць сутнасць сваіх былых заблуджэнняў і памылак, становячыся на шырокія і светлыя прасторы новай творчасці. Зроблена, як кажуць, пераацэнка каштоўнасцяў. Смела і самакрытычна Купала гаворыць перад тварам савецкай грамадскасці аб шкодных яго ранейшых памылках у вядомым лісце ў рэдакцыю газеты "Звязда". […] "Год вялікага пералому" з'явіўся, адначасова і годам, які прынёс з сабой пачатак рашучага пералому, пачатак шчырай ідэйна-мастацкай перабудовы і ў творчасці Я. Купалы. Гэта асабліва відаць на такіх яго вершах, як "Сыходзіш вёска з яснай явы…" (1929), "Дыктатура працы" (1930), "Песня будаўніцтву" (1931) і інш. […]

Яшчэ больш моцны і эмацыянальны верш "А ў Вісле плавае тапелец" (1931). Тэматычна верш адлюстроўвае жыццё працоўных і эксплуататараў у фашысцкай Польшчы, прычым гэты свой паказ Я.Купала вядзе ў плане рэзкіх сацыяльных кантрастаў, што па-першае, адпавядае сапраўднасці, а, па-другое, дае магчымасць паэту акцэнтавацца на найбольш істотных фактах, адлюстроўваючых становішча спраў у панскай Польшчы. У ім паэт маляўнічымі мастацкімі фарбамі і моцнымі, патрасаючымі сваёй драматычнай праўдзівасцю вобразамі і сітуацыямі перадае раскошу і багацце, жывёльнае, абжорскае існаванне кучкі капіталістычных трутняў і паразітаў на агульным змрочным фоне жабрацтва, галечы, голада і беспрацоўя працоўных мас. З аднаго боку "балюе панская Варшава", а з другога — "Вісла пеніцца крывава, а ў Вісле плавае тапелец"».





**Ляпіч узгадваў, што людзей у вагонах было вельмі шмат. Сярод асуджаных былі хворыя, збітыя. Падчас транспарціроўкі зэкі вымушаныя былі стаяць. На прыпынках яны спрабавалі выйсці, аднак канвой пагражаў адкрыць агонь на паражэнне**

### Вязень «Амерыканкі»

Узгаданая вышэй рэцэнзія ўбачыла свет у 1937 годзе. Гэта найбольш цяжкі час для беларускай інтэлігенцыі.

Жонка беларускага навукоўца Соф'я Пятроўна Ляпіч узгадвала: «У 1937 годзе ішлі арышты, і ў той жа час праводзіліся выбары ў Вярхоўны Савет. Сталін заклікаў савецкія органы, партыйцаў да падвышанай пільнасці. […] 20 ліпеня 1938 года Ляпіч быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС як "вораг народа" і змешчаны ў камеру папярэдняга зняволення ва ўнутранай турме НКУС у Мінску. Пра масавыя рэпрэсіі ён ведаў яшчэ да свайго арышту і быў гатовы да дадзенай сітуацыі. Калі ўбачыў "чорны воран" ля свайго пад'езда, а потым пачуў стук у дзверы, то не здзівіўся.

На парозе стаялі двое вайсковых у форме супрацоўнікаў НКУС са "шпаламі" ў пятліцах. Яны запыталі прозвішча і прад'явілі ордэр на арышт і наператрус. Прыператрусе шукалі забароненую літаратуру. Ужо знаходзячыся ў камеры, Ляпіч, паводле ўласнага прызнання, думаў не толькі пра сябе, але і пра лёс мільёнаў такіх, як ён. […] Ён мог бы стаць селянінам, як яго бацька, але жыццё склалася інакш. Ён пайшоў да ведаў, актыўна займаўся грамадскім жыццём. […] Ляпіч думаў пра сваіх калег, якія таксама сталі ахвярамі. Пра свайго настаўніка, акадэміка Івана Замоціна, пра Цішку Гартнага, Алеся Пальчэўскага, Мікалая Федаровіча, Янку Скрыгана і іншых. Ужо ў 1938 годзе іншыя беларускія пісьменнікі сталі ахвярамі рэпрэсій. Шматлікія тысячы загінулі ў турмах і лагерах ГУЛАГ», — адзначала ва ўспамінах Соф'я Пятроўна Ляпіч.

Сам навуковец так характарызаваў тую сітуацыю: «Я быў рамантыкам. Быў адным з тых інтэлігентаў, якія пасля заканчэння інстытута шчыра жадалі прыняць удзел у пераўтварэнні старарэжымнага свету. Вылазячы са скуры, даказваючы, што трэба змяніць псіхалогію, адукацыю, веды, пазбавіцца дробнабуржуазных поглядаў. […] Але прыйшоў час, калі сокі пачалі выжымаць не толькі са старарэжымных, але і з маладых навукоўцаў, такіх, як я. Без сораму пачалі арыштоўваць людзей, называючы іх "ворагамі народа", саджаць іх за краты па даносах».

На допыты Рамана Ляпіча выклікалі ноччу. «Чалавек сярэдніх гадоў у вайсковай форме з двума шпаламі ў пятліцах сядзеў за сталом. Следчы нешта буркнуў сабе пад нос, назваў сваё прозвішча (Савацееў) і запытаў прозвішча падследнага. […] Следчы сказаў, што Ляпіч абвінавачваецца ў сувязях з замежнай выведкай. Дакладней, з нямецкай. А таксама ў сувязі з нацдэмамі. Акрамя гэтага, ён абвінавачваўся ў варожай дзейнасці супраць савецкай улады і ў касмапалітызме. […] Следчы цікавіўся, як Ляпічу ўдалося так хутка падняцца па «крутой лесвіцы навукі». Ён здзіўляўся, як сын непісьменнага селяніна атрымаў вышэйшую адукацыю. «Відаць, у вас была пратэкцыя? Хто быў вашым заступнікам?» — крычаў следчы. Ляпіч тады разважаў: «Няўжо мала месца на зямлі? Хто каму перашкаджае? Навошта абвінавачваць людзей? Арыштоўваць іх і «кухарыць» справы? Уся гэтая валтузня з допытамі патрэбна для выгляду, для пратакола», — адзначала ва ўспамінах яго жонка.

Распаўсюджанай абразай з боку нкусаўца былі словы: «Ляпіч, ты інтэлігент вясковага крою. Змяніў лапці на сапагі, сволач». Следчы ціснуў на Рамана Фёдаравіча і прымушаў апошняга агаварыць сябе. Кожную ноч адбывалася адно і тое ж: лямпа ў вочы, тычкі, крыкі. «У Ляпіча была выдатная памяць, заблытаць яго на допытах у следчага не атрымлівалася. Мужу было тады трыццаць два гады, нервы былі яшчэ крэпкія, здароўе з вясковай заквaскай. Знаходзячыся пад цяжкімі абвінавачваннямі, ён спрабаваў сябе абараняць. Але дарэмна», — падкрэслівала ў рукапісных мемуарах Соф'я Ляпіч.

Праз некаторы час у камеру, дзе знаходзіўся навуковец, пасадзілі яго знаёмага па інстытуту. Той аказаўся «падсадным» і спрабаваў «разгаварыць» Ляпіча, аднак апошні не «павёўся» на гэты манеўр нкусаўцаў. «Абараняючы сваю скуру, некаторыя гатовыя садраць скуру іншага. Нагаварыць, узвесці паклёп, падпісаць прысуд, адправіць іншага на эшафот — гэта робяць тыя, каму таксама пагражае смерць», — узгадваў тыя часы Раман Фёдаравіч.

### Лёс у руках «тройкі»

Ляпіча абвінавачвалі ў здрадзе Радзіме і нацдэмаўшчыне. Навукоўцу не дапамаглі рэцэнзіі, у якіх ён «выкрываў» сутнасць беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

«Згніеш у тайзе. Табе прызначана доўга паміраць», — крычаў следчы НКУС. Аднак Раман Ляпіч адмаўляўся падпісваць пратаколы допыту. Ён стаяў на сваім: у контррэвалюцыйных змовах і арганізацыях не быў, на замежную выведку не працаваў. «Заслуга ваша перад Радзімай

невялікая. Сёння вы мяне дапытваеце, а заўтра вы можаце аказацца на маім месцы», — ціха ў адказ сказаў Ляпіч.

Як не дзіўна, але апошнія словы Рамана Фёдаравіча былі прарочкімі. Хутка следчага Савацеева, які «не спраўляўся з абавязкамі», знялі. Справай Ляпіча пачаў займацца іншы супрацоўнік дзяржбяспекі. Сабраўшы «дастатковую» для абвінавачвання колькасць даносаў, следчы перадаў дакументы Рамана Фёдаравіча на разгляд Асобай нарады НКУС. «Следству не атрымалася даказаць удзел Ляпіча ў контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі і супрацы з замежнай выведкай. У заключэнні было пазначана: «Заўважаны ўпартым і скрытным у сваіх паводзінах».

Тыя, хто засядаў у «тройках», мелі поўную ўладу над падследнымі. Савецкія газеты ў той час зіхацелі заклікамі «Знішчыць ворагаў народа», «Расстраляць агентаў сусветнага капіталізму» і г.д.

Паралельна ішла так званая «польская аперацыя НКУС», у рамках якой была арыштавана вялікая колькасць жыхароў БССР польскага паходжання і рыма-каталіцкага веравызнання. Праца тагачасных чэкістаў нагадвала жудасны канвеер. «Яны пераследавалі цэлыя катэгорыі савецкіх грамадзян. Забралі самых лепшых, працадольных, перадавых людзей. [...] Ляпіч чакаў суда. Але які гэта суд? Пасяджэнне "тройкі". Ён быў упэўнены, што "вышку" не атрымае, бо ў выведвальнай і контррэвалюцыйнай дзейнасці не прызнаўся. Але калі яго завялі ў "судовую залю", навукоўцу стала жудасна. Ён сеў на стул, а побач з ім стаў вартавы. Праз некаторы час у пакой увайшло тры чалавекі. Тры інквізітары. Яны занялі свае месцы за доўгім дубовым сталом, пакрытым зялёным сукном. Адзін з іх быў у вайсковай форме. Ён устаў і… пачаў зачытваць прысуд. "За варожую дзейнасць супраць савецкай улады… — чытаў кат, — грамадзянін Ляпіч Раман Фёдаравіч асуджаны як "вораг народа" да 8 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём тэрміну зняволення ў працоўным лагеры без права выезду пасля заканчэння пазначанага тэрміну да асаблівага распараджэння».

## Дзе ты, каханы?

Для Соф'і Пятроўны Ляпіч пачаліся цяжкія часы. «У 1937–1938 гадах, як быццам бы маланка і гром пасярод яснага неба, пачаліся чорныя дні для шматлікіх людзей і для мяне. Органамі НКУС былі арыштаваныя мой муж і брат. Праз некалькі дзён я вырашыла звярнуцца ў следчую частку НКУС, каб даведацца пра лёс сваіх блізкіх. Раніцай я прыйшла ў прыёмную і запісалася ў чаргу да следчага. Народу было бітком. У 9 гадзін адкрыліся акенцы, дзе сядзелі супрацоўнікі НКУС. Яны запісвалі ў чаргу да следчага і прызначалі тэрмін прыёму. Паводле пашпартных дадзеных супрацоўнікі даведваліся, кім прыходзіцца чалавек арыштаванаму. У прызначаны дзень прыходзіш туды ж і даведваешся ад людзей, што следчы не прымае, а адказвае па тэлефоне. Пачуўшы сваё прозвішча, падыходжу да акошка, а там кажуць у якую кабінку трэба зайсці. [...] Вітаюся, пытаю пра лёс мужа і брата. А следчы, замест адказу, пытае, колькі вам гадоў. Адказваю, а ён: "О, дык яшчэ маладая, можаце выходзіць замуж за іншага". І вось так выходзіш з кабінкі ў слязах», — узгадвала тыя жудасныя часы жонка навукоўца.

Урэшце жанчына даведалася, дзе знаходзіўся муж. Яна паспела перадаць яму цёплыя рэчы. «Ля зоны шум-гам, плач, крыкі. Ля прахадной конная міліцыя. Запіску перадаеш панад людзямі. Таксама крычыш, просіш, каб перадалі. У натоўп лезці нельга, бо затопчуць. У апошні раз перадала мужу цёплую бялізну, рукавіцы і трохі ежы», — пісала ва ўспамінах Соф'я Пятроўна Ляпіч.

## «Сталіца Калымскага краю»

Хутка пасля пасяджэння «тройкі» Ляпіча накіравалі «па этапу». Ноччу з турмы асуджаных вывезлі ў машынах на чыгуначную станцыю. Таварны цягнік стаяў у тупіку. Тут нкусаўцы правяралі спісы асуджаных і афіцэр аддаваў загад: «Па вагонах!»

Ляпіч узгадваў, што людзей у вагонах было вельмі шмат. Сярод асуджаных былі хворыя, збітыя. Падчас транспарціроўкі зэкі вымушаныя былі стаяць. На прыпынках яны спрабавалі дамагчыся выйсці на вуліцу, аднак канвой пад пагрозай адкрыць агонь на паражэнне не даваў гэтага зрабіць. Па прызнанні Рамана Фёдаравіча, людзей «на этапе» было вельмі шмат. «Народ абураўся, у думках шукаў таго вар'ята, які іх душыў. Не, казалі яны, ён не чалавек. Гэта Кентаўр, які раіцца са сваім хвастом, а не з мудрацамі», — узгадваў тыя жудасныя моманты свайго жыцця беларускі літаратурны крытык.

Цягнік ішоў да Уладзівастока. Падчас выгрузкі стала зразумелым, што вялікая колькасць «пасажыраў» гэтага турэмнага экспрэса не вытрымала дарогі. Далей вязняў з Мінску і іншых гарадоў сталінскай імперыі пешшу накіравалі на станцыю Вугальная, дзе пасадзілі ў іншы эшалон, які ішоў да Находкі. Там зэкаў перасадзілі на параход і накіравалі ў Магадан, дзе Ляпіча і іншых зняволеных чакаў лагер.

Лагпункт быў абнесены высокім плотам з калючым дротам. Унутры — доўгія, падобныя на сараі, баракі, з вузкімі вокнамі. «Ад гэтага відовішча чалавек губляў сэнс уласнага быцця і прызначэння», — узгадваў пазней Раман Ляпіч.

Унутры баракаў вязняў чакалі двухпавярховыя нары. Ля дзвярэй віселі лозунгі, якія заклікалі «ўдарнай працай дапамагчы першай краіне працоўных і сялян», а таксама «стымулявалі» зэкаў змагацца супраць паразітаў, якія атакавалі лагернікаў. Сярод асуджаных былі людзі розных нацыянальнасцяў, узросту, прафесій. Побач з «кулакамі», святарамі, «палітычнымі», былымі афіцэрамі Чырвонай Арміі сядзелі серыйныя забойцы, злодзеі, крымінальнікі. Сапраўднымі гаспадарамі былі рэцыдывісты. Яны адчувалі сябе ў лагеры як дома.



«"Палітычных" "уркі" пагардліва называлі "ворагі народа", быццам бы ставячы сябе на адну планку з нкусаўцамі-вертухаямі. А вось саміх сябе крымінальнікі называлі "сябрамі народа"», — узгадваў Ляпіч. У кожным бараку амаль палову асуджаных складалі злачынцы, якія падпарадкоўвалі сабе ўвесь барак. «Лагернае кіраўніцтва лічыла нас за адкіды грамадства, і гэтым карысталіся "злодзеі ў законе"», — узгадваў Раман Фёдаравіч.

Крымінальнікі не працавалі, але абіралі іншых зняволеных. З-за гэтага, па ўспамінах беларускага навукоўца, які аказаліся ў ГУЛАГу, некаторыя брыгады не выраблялі план і мелі меншыя харчовыя пайкі.

Варта адзначыць, што лагерныя ўспаміны Рамана Ляпіча вельмі нагадваюць мемуары іншага вязня ГУЛАГУ, Паўла Нічыпарука. Гэтага беларуса НКУС арыштавала ў 1941 годзе пад Кобрынам, а пазней накіравала ў Сібір, адкуль ён трапіў у Армію Андэрса. У 2017 годзе аўтар гэтага артыкула выдаў мемуары беларускага андэрсаўца пад назвай «Адысея палешука».

## Лагерная рэчаіснасць

Уркі часта падстаўлялі пад удар адміністрацыі менавіта палітычных. Крымінальнікі ведалі законы зоны, кодэкс і гэта дазваляла ім абыходзіць іх. «Злодзеі ў законе вельмі любілі выхваляцца сваімі адсідкамі ў турмах і лагерах. Яны расказваюць, дзе і калі сядзелі, а таксама за якія "подзвігі". Яны прымушалі вязняў аддаваць грошы і рэчы ў злодзейскі абшчак. А хто не хацеў плаціць, той трапляў на зладзейскі суд», — узгадваў Ляпіч.

З раніцы асуджаныя выходзілі на працу і вярталіся позна ўвечары. Працаваць на лесанарыхтоўцы прыходзілася па 8–10 гадзін. Пры гэтым тэрмометр часта спыняўся на адзнацы ў мінус 50 градусаў па Цэльсію. Пасля цяжкай працы стомленыя людзі ішлі на нары, але ім доўга не давалі заснуць злодзеі, якія гулялі ў карты і гучна лаяліся. «Ляпіч тады думаў над сэнсам свайго жыцця. Мінулага ўжо не вернеш, а ці ёсць у яго, беларускага навукоўца, будучыня. Іх, вязняў, зрабілі рабамі», — пісала ва ўспамінах жонка Рамана Фёдаравіча.

У бараках людзі жылі, быццам на вакзале. У кожную хвіліну ахова магла іх падняць па трывозе на працу альбо ў сталовую, бо трэба было паспець паесці перад лесапаваламі. Сярод зэкаў было шмат вельмі хударлявых людзей. Іх асуджаныя называлі «дахадзягамі». Як і «андэрсавец» Павал Нічыпарук, Ляпіч тлумачыў гэтую назву тым, што гэтыя асуджаныя «дахадзілі да краю свайго жыцця». «Палітычныя» шкадавалі гэтых ахвяр ГУЛАГу, а блатныя здзекаваліся з іх.

Больш за ўсё, па прызнанні самога Рамана Ляпіча, ён баяўся захварэць. Хвароба была найбольш хуткім шляхам да смерці. Харчаваліся зэкі баландай, якую варылі з «іржавага» селядца і круп. Ад гэткай ежы ў вязняў ГУЛАГу часта здараліся праблемы са страваваннем.

У бараку, дзе жыў Ляпіч, здараліся бойкі паміж асуджанымі, было шмат хворых на бранхіт. Да ўсяго гэтага дадаваліся цяжкія ўмовы працы.

«Раману Фёдаравічу здавалася, што ён ператвараецца ў выграбную яму, бо акумулюе ў сябе ўсе негатыўныя эмоцыі, што бачыць вакол сябе», — пісала ва ўспамінах жонка беларускага навукоўца. Яму было шкада жыцця і часу, які няўмольна бег. Ляпіч быў яшчэ не старым чалавекам, яму хацелася працаваць у сферы навукі. Але якая навука ў ГУЛАГу? Толькі фізічная праца, а вакол зэкі: палітычныя і крымінальныя.

Элементам той рэчаіснасці быў указ, паводле якога цяжарныя жанчыны і асуджаныя з немаўлятамі вызваляліся з лагеру датэрмінова. Гэта прымушала зэчак шукаць выпадковыя палавыя сувязі. Часта ў замен за гэта яны расплачваліся хлебам.

Аднойчы ў лагеры з'явіўся былы святар, якога звалі Лука. Ён часта маліўся, што выклікала «абурэнне» з боку «палітычных». І гэта зразумела: большасць вязняў гэтай катэгорыі да адседкі былі камуністамі і атэістамі. А вось крымінальнікі ставіліся да «папа» больш спакойна. Святар прымудраўся даставаць кнігі, што было сапраўдным цудам у магаданскіх умовах.

Ці беглі людзі з ГУЛАГу? «Рывок», як называлі ўцёкі на турэмным жаргоне, — цяжкае выпрабаванне. З калымскага лагеру — удвая больш цяжкае. Вакол тайга з дзікімі жывёламі. Да таго ж для ўцёкаў патрэбны сілы, а іх няма. Не было карт, компаса. І ўсё ж людзі беглі. Яны хоць на дзень, на два адчувалі сябе на свабодзе, а там — як «карта ляжа»... «Лепшы момант для пабегу — гэта лесапавал. Там ахова не асабліва пільнуе і ёсць магчымасць пайсці "на рывок"», — узгадваў тыя часы Раман Ляпіч.

## Зламанае жыццё

Літаратуразнаўца з Беларусі адсядзеў у ГУЛАГу «ад званку да званку» і выйшаў на волю ў 1946 годзе.

«Палітычным», нават пасля заканчэння тэрміну зняволення, забаранялася жыць у вялікіх гарадах. Спачатку ён працаваў вольнанаёмным, а ў 1948 годзе ўладкаваўся на працу на базу забеспячэння горнапрамысловага ўпраўлення. З 1951 года Раман Ляпіч працаваў прарабам-геолагам Дзетрынскага горна-руднага ўпраўлення.

У 1954 годзе ён упершыню за доўгі час прыехаў у БССР. Калі ён спрабаваў засяліцца ў гатэль «Беларусь» (сёння «Краўн-Плаза»), яму адмовілі і адзначылі, што ён парушае пашпартны рэжым, бо не можа жыць у сталіцы савецкай Беларусі.

«Думаў, што Сталін памёр — і ўсё змянілася. Аднак яго дух у Беларусі яшчэ жыў», — узгадваў тыя моманты Раман Фёдаравіч.

Шокам для Ляпіча была інфармацыя пра маштаб рэпрэсій 1937–1941 гадоў, пра якія яму расказалі яго былыя калегі і сябры, якія жылі ў горадзе на Свіслачы. Шмат з тых, каго «ўзялі» адначасова з нашым героем, расстралялі. Да таго ж Ляпіча папярэдзілі, каб ён хутчэй з'язджаў з Беларусі. Маўляў, у канцы саракавых у Мінск з лагеру прыехаў пісьменнік Алесь Пальчэўскі, але яго зноў арыштавалі і выслалі ў Краснаярскі край. Ляпічу давялося вярнуцца на Калыму.

Знаходжанне ў ГУЛАГу канчаткова падарвала здароўе былога літаратурнага крытыка і перакладчыка, які перакваліфікаваўся ў геолага. Яго прызналі інвалідам II групы. У 1968 годзе ён урэшце пераехаў у Мінск. Праз год яго афіцыйна рэабілітавалі.

Дзякуючы намаганням Петруся Броўкі, Раман Фёдаравіч атрымаў аднапакаёвую кватэру, дзе і пражыў да канца жыцця. Памёр Раман Ляпіч у студзені 1977 года. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

**Аўтар выказвае шчырую падзяку спадару Міхаілу Сянько за перададзеныя матэрыялы.**

# «Федэрацыя не хоча, каб мы змагаліся за высокія месцы»

Сяргей КАЙКО

**Да заканчэння футбольнага чэмпіянату краіны застаецца менш за месяц. І пакуль абсалютна не вядома, хто і ў якой Беларусі выйграе гонку ды атрымае медалі. Працягваюцца пратэсты і маршы — працягваецца і футбол. Ён быццам існуе ў паралельнай рэчаіснасці, аднак жарсці вірують і тут. У вышэйшай лізе ёсць свае ўлады, свая апазіцыя — і свая пратэставая актыўнасць.**

Галоўныя «апазіцыянеры» — гэта, вядома, гульцы «Нёмана». Яшчэ колькі тыдняў таму мы пісалі, як упэўнена і паспяхова гродзенцы варушаць наша застарэлае футбольнае балота. І сапраўды: заходнікі перамагалі, падымаліся ў табліцы ўсё вышэй, і ў нейкі момант аналітыкі і журналісты загаварылі пра тое, што каманда ў стане не проста выйграць медалі, а нават узяць золата.

Але далей, як пішуць у раманах, прайшоў час. І ён паказаў, што ўсё ж такі не: пра нацыянальны футбольны скіпетр нёманцам думаць рана. Тут бы ўтрымацца ў тройцы, што напрыканцы кастрычніка таксама не выглядае высакаверагодным.

Усё таму, што «Нёман» нібыта спужаўся ўласнага цэны. Ці захлынуўся ад свайго энтузіязму. У пазамінулым туры гродзенцы прайгралі андэрдогам з Гарадзеі, і тое яшчэ можна было спісаць на эпізадычны эксцэс выканаўцы — ну, з кім не бывае. Але на тым жалобны марш каманды не скончыўся — пахавальная музыка мела працяг і ў наступным туры, калі ў госці да хлопцаў Ігара Кавалевіча завітала мазырская «Славія».

Так, нёманцы зноў саступілі. Праўда, гульні спадарожнічала важная акалічнасць, а калі гаварыць прама — судзейскі скандал. Матч абслугоўваў мінскі рэферы Сяргей Гараюцін, і ў лужыну ён сеў ужо ў сярэдзіне першага тайма. Мазырскі паўабаронца Тлупаў выскачыў на аператыўны прастор перад гродзенскай штрафной і быў знесены супернікам. Свісток з нагоды фолу прагучаў справядліва, але далей арбітр нечакана страціў сувязь з рэальнасцю. Добра, парушальніка Лягчыліна ён выдаліў з поля, пакінуўшы «Нёман» у меншасці. Але ў дадатак суддзя прызначыў і пенальці на карысць «Славіі», хаця нават з вокнаў суседніх шматпавярховікаў было відаць, што інцыдэнт адбыўся да ўваходу ў штрафную.

Мазыране «пеналь» выкарысталі, а гаспадары поля, атрымаўшы дурны гол і страціўшы вядучага абаронцу, так і не здолелі сітуацыю выправіць. Пасля, зразумела, паліўся кіпень. Спартыўны дырэктар «Нёмана» Дзмітрый Кавалёнак — надзвычай інтэлігентны чалавек, які валодае французскай мовай, — і той не стрымаўся ды выказаўся наконт судзейскай брыгады ядронымі словамі на «вялікай і магутнай».

Галоўным жа спікерам традыцыйна выступіў трэнер каманды Ігар Кавалевіч. «Відаць, федэрацыя не хоча, каб мы змагаліся за высокія месцы, — эмацыйна адзначыў руляві гродзенцаў. — Нельга не заўважыць відавочнага, калі ўся краіна бачыць, што парушэнне было ў метры ад штрафной. Але нам ставяць пенальці. Ну, можна тады прызначаць пенальці ў цэнтры поля, калі правілы парушыш. Да каманды ніякіх прэтэнзій прад'явіць не магу. Мы будзем змагацца далей».



Суддзя Сяргей Гараюцін перашкодзіў «Нёману» перамагчы

Фота прэс-службы ФК «Нёман»

Цяжка сказаць, якія планы ў БФФ наконт развязкі чэмпіянату (і ўвогуле ці яны ёсць), але што судзейства застаецца слабым звяном беларускага футбола — пра тое гавораць ужо не першы год. У мінулым сезоне вышэйшую лігу скалануў скандал у Брэсце — калі арбітр Віктар Шымусік наламаў дроў у гульні мясцовага «Дынама» з «Шахцёрам», а цяпер неспакойна ў Гродна. І невядома, колькі судзейскіх праколаў нас яшчэ чакае. Бо настае час вырашальных матчаў, дзе цана памылкі вырастае неймаверна.

Між тым, была ў гульні «Нёмана» са «Славіяй» яшчэ адна цікавая акалічнасць. Мясцовыя ўлады вырашылі, што ў гэтым матчы гледачоў на трыбуны пускаць не варта. Афіцыйна тое патлумачылі «пагаршэннем эпідэміялагічнай сітуацыі», з чаго ў заходнім горадзе ўжо даўно рагочуць. Як нядзеля — традыцыйны дзень пратэставай актыўнасці беларусаў — дык з эпідэміялогіяй у Гродна бяда. А так у цэлым пандэмію мы, канешне, перамаглі, забыліся на яе і вадой запілі. І наогул, ніякага каронавіруса не існуе, гэта вынаходніцтва ценявога сусветнага ўраду і злачынная змова масонскай ложы.

На фоне ачковых страт «Нёмана» ў табліцы адбыліся тэктанічныя зрухі. Уверх падцягнулася брэсцкае «Дынама», якое яшчэ нядаўна цялёпкалася недзе ў сярэдзіне табліцы, а цяпер — за кошт шасці перамог запар — зраўнялася з гродзенцамі. І ўжо пайшлі размовы, што «рэвалюцыі» не будзе, а п'едэстал звыкла падзеляць паміж сабой традыцыйныя фаварыты і іерархі. Хто ведае, магчыма, усё так і атрымаецца. Аднак нельга не заўважыць на верхніх таблічных паверхах яшчэ аднаго карбанарыя, які імкнецца з гразі ў князі.

Так, гэта жодзінскае «Тарпеда». Каманда трэнера-мэтра Юрыя Пунтуса набрала зайздросны ход — 12 ачкоў у пяці апошніх матчах. Аўтазаводцы шмат забіваюць, гуляюць з імпэтам, і яны цяпер маюць тыя ж 47 балаў, што і Гродна з Брэстам.

Карацей, наперадзе шмат цікавага. Калі вы любіце беларускі футбол, то цудоўна гэта ведаеце. Калі вернеце нос і бурчыце нешта пра сурагат і Лігу чэмпіёнаў, дзе ўсё інакш і лепей, — то прыглядзецеся, можа, вока і зачэпіцца. Сённяшняя Беларусь як ніколі засяроджаная на сабе — у палітыцы, грамадскіх рухах і гістарычных перспектывах. Футбол і спорт увогуле — гэта працяг жыцця, у некаторым сэнсе яго злепак. Глядзіце — і самі ўсё ўбачыце.

Тым больш самі футбалісты таксама бачаць, што адбываецца навокал. Так, яны збольшага баязліва маўчаць, але сведкі падказваюць, што многія на светлым баку. Як той жа капітан брэсцкага «Дынама» Алег Вераціла, які пасля панядзелкавага матча з «Мінскам» напісаў у сацсетках: «Так, гульня, так, перамога, але думкі мае — з народам...»

## Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 27-га ТУРА**

24.10. ГАРАДЗЕЯ — СМАЛЯВІЧЫ — 4:0 (Алібекаў, 19 — аўтагол, Дзібіградзыеў, 62, Джуары, 75, Шыбун, 90). БАТЭ (Барысаў) — ВІЦЕБСК — 3:1 (Скавыш, 43, 63, Міліч, 83 — Чалаў, 68). ДЫНАМА (Мінск) — БЕЛШЫНА (Бабруйск) — 3:1 (Шытаў, 32, Клімовіч, 71, Хвашчынскі, 77 — Сазановіч, 20). 25.10. НЁМАН (Гродна) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 1:2 (Жукоўскі, 74 — Шаўчэнка, 27, з пенальці, Дудар, 36 — аўтагол). ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ШАХЦЁР (Салігорск) — 1:1 (Юдчыц, 61, з пенальці — Кендыш, 6, Падстрэлаў, 32). РУХ (Брэст) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:1 (В. Васільеў, 31 — Юсаў, 86). 26.10. МІНСК — ДЫНАМА (Брэст) — 1:2 (Лапцеў, 29 —аўтагол — Лапцеў, 6, 57). ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — СЛУЦК — 4:1 (Габоўда, 35, 48+, Хачатуран, 41, Мікалаевіч, 78 — Сірыма, 22).

**ПЕРАНЕСЕНЫЯ МАТЧЫ:** 31.10. Славія — Дынама Бр., Белшына — Шахцёр. 1.11. Энергетык-БДУ — Слуцк. 28-мы ТУР. 6.11. Іслач — Мінск, Віцебск — Рух. 7.11. Смалявічы — Нёман, Слуцк — Гарадзея, Дынама Бр. — Тарпеда–БелАЗ, Шахцёр — БАТЭ. 8.11. Белшына — Энергетык–БДУ, Славія — Дынама Мн.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | Г | П | Н | П | М | А | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ | 27 | 16 | 5 | 6 | 59-31 | 53 |
| 2. | Шахцёр | 26 | 14 | 7 | 5 | 45-16 | 49 |
| 3. | Нёман | 27 | 14 | 5 | 8 | 35-25 | 47 |
| 4. | Дынама Бр. | 26 | 15 | 2 | 9 | 53-34 | 47 |
| 5. | Тарпеда–БелАЗ | 27 | 13 | 8 | 6 | 47-33 | 47 |
| 6. | Дынама Мн | 27 | 14 | 3 | 10 | 34-23 | 45 |
| 7. | Іслач | 27 | 13 | 5 | 9 | 42-38 | 44 |
| 8. | Рух | 27 | 10 | 10 | 7 | 49-33 | 40 |
| 9. | Энергетык–БДУ | 26 | 10 | 5 | 11 | 35-38 | 35 |
| 10. | Віцебск | 27 | 8 | 10 | 9 | 26-33 | 34 |
| 11. | Мінск | 27 | 10 | 4 | 13 | 37-48 | 34 |
| 12. | Славія | 25 | 8 | 7 | 10 | 34-45 | 31 |
| 13. | Гарадзея | 27 | 7 | 6 | 14 | 26-42 | 27 |
| 14. | Слуцк | 26 | 7 | 3 | 16 | 29-53 | 24 |
| 15. | Белшына | 25 | 5 | 5 | 15 | 28-48 | 20 |
| 16. | Смалявічы | 27 | 3 | 5 | 19 | 26-65 | 14 |



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1811

Падпісана да друку 29.10.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.